–Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
18
СНЕЖНЯ
1992 г.
№ 51 (3669)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 1 рубель.
(Па падпісцы — 10 кап.)





# КАЛЯДНАЕ ШЧЫРАВАННЕ

На стыку гадоў «ЛіМ» вырашыў з'арганізаваць нешта накшталт «Кіёска шчыраванняў» — запрасіць сваіх чытачоў шчыра выказацца пра жыццё, падзяліцца сваімі думкамі пра дзень заўтрашні, пра лёс свой і лёс Бацькаўшчыны.

Бо прамінае і праміне пара лозунгавага, семантычнага, так бы мовіць, адраджэння, — надыходзіць і надыдзе час відавочнага і зматэрыялізаванага клопату пра **негаласлоўнасць** таго працэсу, што завем мы Адраджэннем, пра адпаведнасць слоў і практычнага чыну, лозунгаў і рэальных вакольных змен. А ў рэчаіснасці для чалавека, якога мы звыкла завем «маленькім», якаянебудзь маленечкая драбяза-дробязь зусёды значыла больш, чым самыя гучныя — **таталітарныя** — лозунгі. Бацькаўшчына павінна прыходзіць да сваіх сыноў і дачок якімі-небудзь дробязямі — у побыце, сям'і, на вуліцы, у эстэтычных патрэбах і г. д.

Але чаго, якіх дробязей прагне сёння маленькі чалавек — мы з вамі, шаноўныя чытачы? Вось і запрашаем вас адказаць на наступныя пытанні (лістом альбо па тэлефоне 33-19-85, ці прыйшоўшы да нас у рэдакцыю з 13 да 16 гадзін):

1. (КАЛЯДНАЕ) Як вы сёлета будзеце святкаваць (святкавалі) Новы год? Якое свята вам асабіста даражэй: Новы год ці Каляды (нараджэнне Хрыстова, калі Вы вернік)? Ці ўмееце вы калядаваць, шчадраваць і ці жадалі б навучыцца гэтаму?

2. (ЖЫЦЦЁВАЕ) Што вы думаеце наконт свайго ўласнага лёсу: а) ён неаддзельны ад лёсу рэспублікі; б) зладзіце яго як-небудзь самі, упаасобку, толькі для гэтага бракуе... чаго бракуе?

ПІШЫЦЕ, ТЭЛЕФАНУЙЦЕ, ЗАХОДЗЬЦЕ — НА КАЛЯДНАЕ ШЧЫРАВАННЕ!

**Аддзел пісьмаў і грамадскай думкі.**

# Кола Дзён

На мінулым тыдні газеты паведамілі, што ў лістападзе ўпершыню за апошнія гады на Беларусі назіраўся рост прамысловай вытворчасці. Аўтар аднаго з каментарыяў на падставе гэтага факта зрабіў адназначны вывад: Беларусь выходзіць з эканамічнага крызісу. Вельмі хацелася б у гэта паверыць. Сапраўды—каму ж не хочацца глядзець у будучыню з аптымізмам? А усё ж такі, відаць, ранавата біць у літаўры. Успомнім, што павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці заўсёды было галоўнай мэтай сацыялістычнай эканомікі. Але ж дабрабыт звычайных людзей за гэтым няўхільным ростам чамусьці ніяк не паспяваў. Пакупнікі маюць у рэальнасці справу не з лічбамі Дзяржкамстата, а з наяўнасцю тавараў у магазінах і грошай у кашальках (ці іх адсутнасцю) .Вядома, лібералізацыя цэн не стала і не магла стаць панацэяй для эканомікі, а спадзяванні на тое, што «рынак сам сябе адрэгулюе», аказаліся, мякка кажучы, перабольшанымі. І хто, у прынцыпе, можа быць супраць павышэння аб'ёмаў вытворчасці ў прамысловасці? Ёсць толькі адно пытанне: якой цаной? І хто будзе плаціць?

**10 СНЕЖНЯ**

На тэрыторыі Еўропы назіралася поўнае зацьменне Месяца. З гэтай касмічнай з'явай супала свайго роду палітычнае «зацьменне» ў Маскве. У гэты дзень прэзідэнт Расіі Б. Ельцын абвінаваціў з'езд народных дэпутатаў у спробах узурпіраваць уладу і прапанаваў правесці рэферэндум, каб выявіць, каму народ давярае правядзенне рэформ—прэзідэнту ці з'езду. Дэпутаты прынялі ў адказ контрзаяву. Ход падзей пачаў набываць небяспечны характар.

Міністэрства юстыцыі Беларусі зарэгістравала Беларускую лігу правоў чалавека—першую арганізацыю такога роду ў рэспубліцы.

**11 СНЕЖНЯ**

У Мінску завяршылася нарада экспертаў Асацыяцыі садзеяння ААН Беларусі, у якой удзельнічалі дэлегацыі ЗША, а таксама Расіі, Украіны, Казахстана і Малдовы.

У Доме літаратара ў Мінску прайшла прэзентацыя Еўрапейскага гуманітарнага універсітэта, у якім пачалі атрымліваць адукацыю па новых праграмах беларускія студэнты. Навучэнцаў і выкладчыкаў навучальнай установы вітаў Старшыня ВС Беларусі С. Шушкевіч.

**12 СНЕЖНЯ**

У выніку перамоў прэзідэнта Расіі Б. Ельцына, спікера расійскага парламента Р. Хасбулатава і старшыні Канстытуцыйнага суда В. Зорціна быў дасягнуты кампраміс. Паводле пастановы, зацверджанай на з'ездзе большасцю дэпутатаў, у красавіку наступнага года павінен адбыцца рэферэндум па асноўных палажэннях новай Канстытуцыі. Да гэтага моманту заканадаўчая і выканаўчая ўлады маюць намер захоўваць «статус-кво».

**13 СНЕЖНЯ**

У сталіцы Беларусі, у Палацы спорту прайшоў «Баль алімпійцаў». Ён быў прысвечаны 40-годдзю ўдзелу беларускіх спартсменаў у Алімпійскіх гульнях. Чэмпіёнаў, сярод якіх былі А. Мядзведзь, А. Кошаль, Л. Тараненка, В. Шчэрба і іншыя папулярныя спартсмены, віталі старшыня НАК рэспублікі У. Рыжанкоў і старшыня асацыяцыі алімпійскіх камітэтаў Еўропы доктар Ж. Раге.

**14 СНЕЖНЯ**

Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі С. Шушкевіч пачаў свой рабочы тыдзень з паездкі ў Горацкі раён, дзе сустракаўся з вяскоўцамі, работнікамі сельгасакадэміі, мясцовымі кіраўнікамі. Галоўнай тэмай размоў былі зямельная рэформа і прыватызацыя.

З трох кандыдатаў на пост прэм'ер-міністра Расіі, якія набралі ў ходзе «рэйтынгавага» галасавання дэпутатаў на з'ездзе найбольшую колькасць галасоў, Б. Ельцын выбраў віцэ-прэм'ера В. Чарнамырдзіна. З'езд зацвердзіў прадстаўленую кандыдатуру і ў той жа дзень скончыў работу. Можна сцвярджаць, што эпоха Гайдара і яго рэформ таксама скончылася.

**15 СНЕЖНЯ**

ВС Беларусі правёў закрытае пасяджэнне, на якім разгледзеў пытанне аб вайсковай дактрыне рэспублікі.

**16 СНЕЖНЯ**

Завяршыўся візіт Міністра абароны Беларусі П. Казлоўскага ў Польшчу, дзе прайшлі яго перамовы з Міністрам нацыянальнай абароны гэтай краіны Я. Анышкевічам.

ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК

# ВЕРА, ЗАКОН І ПАДАТКІ

«Не хлебам адзіным жыве чалавек». Гэту біблейскую ісціну прапанаваў успомніць намеснік старшыні парламенцкай камісіі па галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека А. Вярцінскі, які прадстаўляў законапраект Аб свабодзе веравызнання. Да гэтага законапраекта сесія вярталася неаднойчы, і спрэчак вакол асобных яго палажэнняў узнікала нямала. Абкладаць даходы царквы падаткамі ці не? Патрыяршы экзарх Беларусі мітрапаліт Філарэт дазволіў сабе ў сувязі з гэтым нагадаць калегам па парламенце, што доўгі час падаткі на рэлігійныя арганізацыі дасягалі 80 працэнтаў. А ўвесь даход царква «добраахвотна» пералічвала ў Савецкі фонд міру. Тым часам храмы прыходзілі ў занядбанне, а вернікі нічога не маглі зрабіць. Прапанова зняць падаткі на даходы ад рэлігійнай (але толькі не гаспадарчай) дзейнасці была прынята.

А вось пераканаць большасць дэпутатаў у неабходнасці падаткавых паслабленняў на развіццё навукі і тэхнікі пры разглядзе праекта закона Аб асновах дзяржаўнай навуковай палітыкі не ўдалося. Магчыма, маюць рацыю тыя, хто лічыць неабходным вырашыць гэтае і іншыя пытанні ў прынцыпе, пры фарміраванні дзяржбюджэту і ўнясенні змен у закон аб падаткаабкладанні? Пытанне аб падатках — відаць, апошняе з галоўных эканамічных пытанняў, якое парламент зможа разгледзець да свaіх калядных канікулаў.

Трэба сказаць, што значная частка дэпутатаў незадаволена такім прамаруджваннем. Тлумачэнні з боку прэзідыума — маўляў, камісіі не паспяваюць падрыхтаваць законапраекты да патрэбнай кандыцыі — выклікалі абурэнне на сесіі. Цікава, што на мінулым тыдні, як толькі дэпутаты выказалі сваю незадаволенасць адкрыта, удалося фактычна за дзень прыняць і антыманапольны закон, і закон аб акцыянерных таварыствах, і шэраг іншых актаў.

На пачатку гэтага тыдня ў рабоце сесіі адчувалася нейкая насцярожанасць і няпэўнасць. Верагодна, дэпутаты знаходзіліся пад уражаннем падзей на з'ездзе сваіх расійскіх калег, які скончыўся напярэдадні. Ва ўсякім выпадку размовы ў кулуарах аб манеўрах Ельцына і Хасбулатава і аб прызначэнні Чарнамырдзіна прэм'ерам вяліся з большым імпэтам, чым спрэчкі на пытаннях, вынесеных на парадак дня. Думаецца, пытанне, якім задаваліся вельмі многія, сфармуляваў, нарэшце, дэпутат Б. Гетц у выступленні ад мікрафона. Якой будзе рэакцыя кіраўніцтва рэспублікі і Вярхоўнага Савета на зварот, прыняты расійскім з'ездам, у якім парламентам незалежных дзяржаў прапануецца разгледзець пытанне аб канфедэрацыі? Можна, канечне, рабіць выгляд, што нічога такога не адбылося. Але рана ці позна парламент павінен будзе адназначна сфармуляваць сваю прынцыповую пазіцыю.

**Віталь ТАРАС.**

РЭПЛІКА

## Навуковыя аргументы альбо фальсіфікацыя?

Апошнім часам абаронцы калгасна-саўгаснай сістэмы разгарнулі прапагандысцкую кампанію ў абарону так званай калектыўнай уласнасці на зямлю. Напярэдадні абмеркавання гэтага пытання на сесіі Вярхоўнага Савета робіцца масіраваная атака на альтэрнатыўныя прапановы. Тое, што ў ёй удзельнічае калгасна-саўгаснае лобі, зразумела. Дзіўна толькі, што гэтую кампанію падтрымлівае сёй-той з вядомых вучоных-аграрнікаў. У якасці прыкладу прывяду надрукаваны днямі ў «Белорусской ниве» артыкул акадэміка С. Скарапанава: «Вопрос о земле пусть решат сами крестьяне». Ужо сама назва артыкула — тыповая бальшавіцкая дэмагогія.

Безумоўна, кожны мае права на сваё меркаванне. Але ж аўтар артыкула дапускае замену паняццяў. Ён піша, што адмова ад калектыўнай уласнасці на зямлю азначае на справе забарону калгасаў. Але ж гэта няпраўда. Калектыўная форма гаспадарання можа развівацца і на прыватнай зямлі (сямейныя фермы), і на дзяржаўнай, і на муніцыпальнай. Ніхто не перашкаджае. Калектыўнай жа ўласнасці на зямлю нідзе ў свеце няма. Гэты тэрмін не мае пад сабою эканамічнай асновы, а таму ён антынавуковы. Але наша аграрная навука ўсё жыццё «абгрунтоўвала» мудрыя думкі партыйнай наменклатуры. Падобная сіла інерцыі дзейнічае і сёння.

Далей паважаны вучоны аналізуе эфектыўнасць калгаснай вытворчасці і падворкаў калгаснікаў і прыходзіць да высновы, што і ўраджайнасць бульбы, і надой ад каровы ў калгасе вышэй. Што-што, а маніпуляваць лічбамі пры савецкай уладзе навучыліся. Абы лічбы сведчылі на карысць сістэмы. Быццам бы паважаны спадар Скарапанаў не ведае, што ў былым СССР тры працэнты зямлі, замацаванай за прысядзібнымі гаспадаркамі, давалі ці не 30 працэнтаў усяго валавога збору бульбы і гародніны. Зноў жа па афіцыйнай статыстыцы ў калгасах і саўгасах гіне трэцяя частка ўсяго ўраджаю.

Хачу заўважыць апалагетам калектыўнай уласнасці на Зямлю: няўжо нас нічому не вучыць гісторыя?

**Яўген ЛУГІН,**
старшыня Беларускай сялянскай партыі.

З БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА

# З'ЕЗД ЦІ МАТЧ-РЭВАНШ?

Толькі не кажыце мне, што драматычныя падзеі на VII з'ездзе народных дэпутатаў Расіі не маюць да нас ніякага дачынення. Маўляў, Масква — замежная краіна і хай яны там хоць на галовах ходзяць, нам што з гэтага? Каб жа так... Не ведаю, як будзе далей, а пакуль што мы з Расіяй — як тыя злучаныя сасуды: у адзін нальеш, у другім таксама з'явіцца...

Хто помніць, напярэдадні з'езда ў сродках масавай інфармацыі настойліва гучала думка, што «народныя абраннікі» Расіі, пераважную большасць якіх складае былая партыйна-дзяржаўная наменклатура, паспрабуюць ператварыць з'езд у аўтадафэ для прэзідэнта Расіі Б. Ельцына.

Як рэагаваў на гэта сам прэзідэнт? Вядома, што «каждый мнит себя стратегом, видя бой со стороны», але з самага пачатку я быў схільны пагадзіцца з тымі палітычнымі наглядальнікамі з дэмакратычнага лагера, якія лічылі, што такое ненатуральнае ўтварэнне (з'езд народных дэпутатаў) даўно зжыло сябе і яго чарговае скліканне нічога, акрамя расколу грамадства, не прынясе. Своечасова праведзены рэферэндум па гэтым пытанні мог бы паставіць усе кропкі над «і».

Прэзідэнт палічыў за лепшае працягнуць сваім непрымірымым апанентам і адкрытым ненавіснікам аліўкавую галіну міру, ахвяруючы пры гэтым сваімі адданымі сябрамі і паплечнікамі — знімаецца са сваёй пасады старшыня расійскай тэлекампаніі «Астанкіна» Ягор Якаўлеў, ідзе ў вымушаную, трэба думаць, адстаўку міністр інфармацыі Міхаіл Палтаранін, скасоўваецца ўплывовая пасада Дзяржаўнага сакратара пры прэзідэнце, якую займаў Генадзь Бурбуліс. Здавалася, Б. Ельцын не ведае, якую яшчэ «костку» кінуць у «пашчу» апазіцыі. Ён выступае з заканадаўчай ініцыятывай праводзіць на з'ездзе зацвярджэнне чатырох самых важных «сілавых» міністраў — абароны, замежных і ўнутраных спраў, бяспекі, добра ведаючы, што рэакцыйная большасць дэпутацкага корпуса даўно прагне крыві міністра замежных спраў Расіі Андрэя Козырава, з імем якога звязаны новы курс расійскай знешняй палітыкі, яе растучы міжнародны аўтарытэт. Узамен гэтых уступак Прэзідэнт патрабаваў зацвярджэння з'ездам на пасадзе прэм'ера ўрада Ягора Гайдара, з якім і яго камандай звязваў свае надзеі на паспяховае правядзенне эканамічных рэформ, здольных выцягнуць краіну з глыбокага крызісу.

Дзіўна, але Ельцын, вопытнейшы палітычны баец, не разгледзеў, кажучы шахматнай моваю, элементарнага чатырохходовага мата, які, пасміхваючыся, рыхтавала яму кансерватыўная большасць з'езда пад кіраўніцтвам Руслана Хасбулатава. Пасля трох дзён бяццам міралюбівых выступленняў, мэтай якіх было ўсыпіць пільнасць прэзідэнта, дэпутаты праваліваюць кандыдатуру Я. Гайдара, парушыўшы гэтым усе папярэднія дамоўленасці.

Нарэшце, загнаны ў кут, Б. Ельцын рашаецца нанесці ўдар у адказ — у чацвер 10 снежня з трыбуны з'езда выступае са зваротам да грамадзян Расіі, дзе па-сапраўднаму ацэньвае курс, якім ідзе гэты форум «народных абраннікаў». «На з'ездзе разгорнута магутнае наступленне на курс, праводзімы прэзідэнтам і ўрадам, на тыя рэальныя пераўтварэнні, якія ўтрымлівалі краіну ўсе апошнія месяцы ад эканамічнай катастрофы, — гаворыць ён. — Тое, што не ўдалося зрабіць у жніўні 1991 года, вырашылі паўтарыць цяпер і ажыццявіць паўзучы пераварот». Нарэшце, дайшло...

Не перастаю здзіўляцца наіўнасці людзей, якія вераць, што пасля разгрому мінулагодняга путчу камуністычная сістэма адышла ў нябыт. Не адышла. Яе ідэі і каштоўнасці па-ранейшаму валодаюць розумам тысяч і тысяч людзей, якія з гэтай сістэмы жылі і карміліся. І яны будуць прагнуць рэваншу, пакуль не пераможуць ці не будуць пераможаны. Мая асабістая думка: з чырвонай навалай (а яна апошнім часам набывае і выразнае карычневае адценне) на падставе існуючай канстытуцыі (Брэжнеўскай, латанай-пералатанай) не справіцца. Павінны быць прыняты нейкія іншыя дзейсныя меры.

А пакуль што «чырвоныя» зусім распаясаліся. На ўсю з'ездаўскую залу істэрычна крычала ў мікрафон Каракіна, што трэба працягнуць руку дапамогі былым путчыстам, вязням «Матроскай цішыні»: «Гэ-

# ХВОРЫМ ДЗЕЦЯМ — НАШЫ СЭРЦЫ

## Навагодні зварот да ўсіх неабыякавых людзей

Ідзе да нас, стукаецца ў дзверы Новы год. Ці стане ён новым, радасным, натхнёным і светлым?

Каб атрымаць жаданы адказ, задумаемся: як адчуваюць сябе нашы дзеці, з якім настроем жывуць, чаго чакаюць ад заўтрашняга дня?

Крыўдна і горка, але мусім прызнаць — нашы дзеці ў вялікай бядзе. Іх, бязвінных, найбольш балюча зачапіў чарнобыльскі джын, які вылецеў з чэрава атамнага рэактара. Яны пакутуюць ад хворай экалогіі, недасканалых медыцыны і педагогікі, бацькоўскай разбэшчанасці, ад эканамічнай дэбільнасці і палітычнай тузаніны.

Існуюць нават дзіцячыя чэргі: каб купіць цікавую цацку, танную вопратку, каларыйную ды чыстую ежу. Але самая заганная чарга — у бальніцы, на лячэнне.

У нашай рэспубліцы наладжана для хворых дзяцей 18 тысяч бальнічных ложкаў. Яны ніколі не пустуюць. На іх, разам з таблеткамі, уколамі, крапельніцамі, нашы дзеці будуць сустракаць Новы год.

Беларускі дзіцячы фонд, як таварыства сяброў дзяцей, арганізуе навагоднія падарункі для тых дзяцей-пакутнікаў, каго сустрэне Дзед Мароз у аддзяленнях дзіцячай анкалогіі, кардыялогіі, псіхіятрыі. Мы наведаем дзяцей-інвалідаў у I гарадской дзіцячай бальніцы, хворых дзяцей у Навінках, Аксакаўшчыне. Пабываем на вуліцы Чарвякова ў гемафілаў, на вуліцы Сухой у дзяцей з паталогіяй слыху і мовы, у аддзяленні «Пратэзіст».

Ад імя Праўлення Беларускага дзіцячага фонду звяртаемся да кіраўнікоў Рэспублікі, народных дэпутатаў, лідэраў усіх партый, грамадскіх арганізацый, камітэтаў і фондаў, да прадпрымальнікаў, да прадстаўнікоў сяла, у саветы рабочых калектываў і прафсаюзы, да творчай і навуковай інтэлігенцыі з настойлівым заклікам:

Давайце сэрцам адчуем дзіцячую бяду. Знойдзем час, жаданне і магчымасці, каб у калядныя, peраднавагоднія дні наведаць кожнае хворае дзіця.

Дзяцей, якія чакаюць нашай спагады і ласкі, можна адшукаць у бальніцах і санаторыях, у дыспансерах і прафілакторыях. Багата дзяцей-інвалідаў жывуць у сем'ях. Іх трэба прыгадаць перад святам, наведаць стомленых ад гора матуль, дапамагчы і паспачуваць ім.

Нагадваем адрасы міласэрнасці: 18 тысяч хворых дзяцей у стацыянарах, 12,5 тысячы дзяцей-інвалідаў, 83 школы-інтэрнаты з хворымі дзецьмі.

Азірніцеся наўкол сябе, добрыя людзі, і зрабіце крок да дзіцячай бяды, сэрцам зразумейце пакуты і смутак малых нашых нашчадкаў, і Вам абавязкова захочацца зрабіць дабрачынную справу. А дзеці ўзамен узнагародзяць Вас усмешкай, добрым позіркам і пацалункамі.

Поспеху Вам і натхнення на шляху міласэрнасці да хворых дзяцей.

Здароўя і жадання рабіць дабро!

З НОВЫМ ГОДАМ, СЯБРЫ ДЗЯЦЕЙ!

**Уладзімір ЛІПСКІ,**
**прэзідэнт Беларускага дзіцячага фонду.**

---

тыя людзі не злачынцы, гэтыя людзі — героі!».

Чаму ж з такой асалодай праціўнікі Ельцына правалілі на з'ездзе прапанаваную ім кандыдатуру Ягора Гайдара? Схільны пагадзіцца з вельмі паважаным мной маскоўскім публіцыстам і эканамістам Ота Лацісам, які лічыць, што ў рэшце рэшт справа не ў самой асобе Я. Гайдара. Асноўнае, што рухае «непрымірымай» апазіцыяй, якая задае тон на з'ездзе, — трывога і непакой за тое, у чыіх руках апынецца ўласнасць і ўлада — асноўныя пытанні ва ўсякай рэвалюцыі. Вось тут «апазіцыянеры» не могуць не разумець, што курс рэформ, праводзімы ўрадам Гайдара, не пакідае ім ніякіх шанцаў на ўладу, на магчымасць распараджацца фантастычнымі расійскімі багаццямі...

Зараз я дазволю сабе вярнуцца да метафары аб злучаных сасудах, з якой пачаў гэтыя нататкі. Давайце на хвілінку ўявім, што з'езду ўдалося б ажыццявіць сваю звышзадачу — пазбавіць Б. Ельцына прэзідэнцкіх паўнамоцтваў. У якім кірунку разгарнула б сваю дзейнасць заканадаўчая ўлада ў Расіі — здагадацца няцяжка. Адзін з лідэраў апазіцыі Б. Ісакаў, даўно вядомы сваёй варожасцю да Ельцына, выступаючы «ад мікрафона» падчас абмеркавання адной з папраўак да Канстытуцыі і выказваючыся на карысць таго, каб у фармулёўцы закона засталося вызначэнне — СССР, сказаў: «Я разумею, што гэтае слова, нібы костка ў горле ў першую чаргу тых кіраўнікоў у нацыянальных рэспубліках, якія захапілі ўладу, дзякуючы злачыннай змове ў Белавежскай пушчы. Не ведаю, колькі гэта будзе яшчэ працягвацца, можа, год ці два, але ў рэшце рэшт СССР будзе адноўлены. У гэтым я цвёрда ўпэўнены». Заначым, што Ісакаў застаўся з гэтым сваім «прароцтвам» не ў гордай адзіноце. Гучалі прапановы паставіць на «форуме» пытанне аб скасаванні СНД і аднаўленні СССР, хай і на канфедэратыўнай аснове.

...Зварот прэзідэнта Расіі Б. Ельцына да народа з прапановай правесці рэферэндум, каб вызначыць, з кім ён, выклікаў сярод дэлегатаў сапраўдны шок. Брыдка было бачыць, як салідныя мужчыны ў паніцы бегаюць па зале, нешта выкрыкваючы. Адзін даводзіў, што бачыць амонаўцаў, якія блакіруюць выхады з залы, другі страшыў калег, што зараз з'явіцца «матрос Жалязняк» і аб'явіць з'езд распушчаным. Быццам той Жалязняк не быў сімвалам, ідалам іх духоўных папярэднікаў-бальшавікоў.

Як вядома, па ініцыятыве старшыні Канстытуцыйнага суда Расіі В. Зоркіна паміж з'ездам і прэзідэнтам, «каб не расколваць грамадства», было заключана пагадненне, дзе кожны з бакоў адмовіўся ад некаторых сваіх патрабаванняў.

Тым не менш, з'ездаўская большасць прагаласавала за новага прэм'ер-міністра. Ім стаў В. Чарнамырдзін. Новы прэм'ер абяцаў з'езду выпрацаваць новы курс рэформ.

Вядомы ў мінулым праваахоўнік, палітычны вязень, зараз народны дэпутат Расіі айцец Глеб Якунін так пракаментаваў прызначэнне новага старшыні ўрада: «Гэта вялікае паражэнне, як гэтага не разумее прэзідэнт?»

Што далей?

**Міхась ЗАМСКІ.**

---

# Залежыць ад кожнага з нас




**10 снежня ў Доме літаратара адбылася чарговая вечарына менскага грамадска-асветніцкага клуба «Спадчына». Яна прысвячалася 75-м угодкам I Усебеларускага Кангрэса (з'езда), які праходзіў у Менску ў снежні 1917 года. Адзначым, да слова, што на дзяржаўным узроўні ўгодкі кангрэса, як, дарэчы, і нядаўняя гадавіна Слуцкага Збройнага Чыну, шматлікія іншыя важкія даты славутай беларускай мінуўшчыны, у нас афіцыйна пакуль яшчэ не святкуюцца. А шкада, бо без шырокага далучэння народа да сапраўднай гісторыі сваёй Бацькаўшчыны ўсе праграмы і гучныя заклікі ў падтрымку нацыянальнага Адраджэння застануцца пустымі размовамі, пражэктамі, адарванымі ад жыццёвых рэалій.**

**Клуб «Спадчына» аб'ядноўвае крыху больш за пяцьдзесят чалавек. Але людзей на пасяджэнні апошнім часам збіраецца куды больш. І на апошняй вечарыне ў вялікай зале Дома літаратара незанятых крэслаў не засталося. Гэта радуе, сведчыць, што цікавасць да роднай даўніны расце на вачах. Між тым абвестку аб згаданай сустрэчы надрукавалі толькі некалькі сталічных дэмакратычных газет, якія выходзяць даволі абмежаваным накладам. Адкрываючы свята, старшыня клуба А. Белы зачытаў віншавальныя тэлеграмы на адрас удзельнікаў вечарыны, атрыманыя па факсу ад нашых суродзічаў, беларусаў з Амерыкі. Тэлеграмы, у прыватнасці, прыслалі: Рада БНР, часопіс «Полацак» (г. Кліўленд), заздзіночанне беларуска-амерыканскіх ветэранаў, Беларуска-амерыканскае Задзіночанне, Беларуска-амерыканскі кангрэсавы камітэт.**

Напярэдадні аўтар гэтых радкоў (са слабой надзеяй штосьці вартае ўвагі знайсці) пагартаў агульнадаступную беларускую гістарычную літаратуру. У выніку склалася цвёрдае перакананне: беларуская савецкая гістарыяграфія ці зусім замоўчвала I Усебеларускі Кангрэс, ці, ставячы факты, як кажуць, з ног на галаву, адназначна падавала яго выключна са знакам мінус, як падзею рэакцыйную, антынародную, нацыяналістычную. Вось, напрыклад, што гаворыцца на гэты конт у адыёзным школьным падручніку «История БССР» Л. Абэцэдарскага, М. Баранцавай, Н. Паўлавай (па якім, дарэчы, нашу гісторыю «вывучалі» практычна ўсе сённяшнія дарослыя грамадзяне Рэспублікі Беларусь): «Супраць Савецкай улады выступілі беларускія буржуазныя нацыяналісты. Яны ў снежні (1917 г. —**М. В.**) з'ехаліся ў Мінск і назвалі свае зборышча «Усебеларускім кангрэсам». Удзельнікі гэтага самазванага «кангрэса» — памешчыкі, царскія генералы, ксяндзы, кулакі — не прызналі Савецкай улады на Беларусі і вырашылі стварыць свой контррэвалюцыйны «усебеларускі орган»... Аднак паводле пастановы Савета Народных Камісараў нацыяналістычнае контррэвалюцыйнае зборышча было распушчана. Працоўныя Беларусі з вялікім задавальненнем сустрэлі роспуск памешчыцка-кулацкага кангрэса». Бачыце, як, аказваецца, усе проста і ясна. Звярніце таксама ўвагу на тэрміналогію, на ацэнкі, на чаканныя фармуліроўкі ўрыўка з падручніка. Не станем стамляць чытача цытатамі з іншых выданняў, бо, зрэшты, там — тое ж самае.

Дык чым жа на самай справе на старонках летапісу Бацькаўшчыны з'явіўся I Усебеларускі Кангрэс — падзея, якая ў нас доўгі час малявалася адной чорнай фарбай, а беларусамі-эмігрантамі шанавалася і святкавалася? На гэта пытанне ўдзельнікам вечарыны ў кароткім, эмацыянальным выступленні, якое ані не паходзіла на сухі, чытаны з паперкі, сумны акадэмічны даклад, усхвалявана адказваў гісторык Аўген Калубовіч. Прамоўца, у прыватнасці, падкрэсліў, што пасля Лютаўскай рэвалюцыі адраджэнскі рух на Беларусі зрабіўся масавым. Створаная ў Менску ў кастрычніку 1917 года Вялікая Беларуская Рада, якая аб'ядноўвала пераважную большасць прадстаўнікоў дэмакратычных партый, суполак, плыняў і рухаў, вырашыла склікаць I Усебеларускі з'езд (кангрэс), каб апошні вызначыў далейшы лёс Бацькаўшчыны. Тым часам у Петраградзе выбухнуў кастрычніцкі пераварот, а бальшавікі Заходняга фронту сілай захапілі ўладу ў Менску. Але гэта зусім не зняло з парадку дня пытанне аб скліканні Усебеларускага Кангрэса. Больш таго, палітычная сітуацыя на Беларусі ўскладнілася і абвастрылася, хоць Петраградскі Саўнаркам фармальна прызнаў правамоцнасць Кангрэса.

А. Калубовіч засяродзіў увагу прысутных на тым, што ў Менск на Кангрэс (праходзіў у памяшканні сучаснага тэатра імя Янкі Купалы) у пачатку снежня 1917 года сабраліся 1872 дэпутаты. Іх перш за ўсё непакоіла: на якіх умовах Троцкі падпіша мір з немцамі, чаму прадстаўнікоў Беларусі няма на перамовах з нямецкім бокам у Бярэсце, чые інтарэсы абараняе Менскі Савет? Зразумела, што ад прынцыповага вырашэння гэтых неадкладных пытанняў залежала будучыня Беларусі.

**Далей прамоўца вылучыў наступнае. Бальшавіцкае кіраўніцтва Савета Народных Камісараў Заходняй вобласці і фронту, падначаленых яму іншых арганізацый складалася з выпадковых, абсалютна абыякавых да долі Беларусі людзей (А. Мяснікян. В. Кнорыньш, М. Фрунзе, К. Ландар), якім наша Беларусь бачылася толькі Паўночна-Заходнім краем адзінай і непадзельнай Расіі. Але ў асобе Усебеларускага Кангрэса яны не без падстаў беспамылкова адразу адчулі паўнамоцнага прадстаўніка законна абранага Нацыянальнага Сходу. Бальшавікі разумелі, што глеба пагрозліва хістаецца ў іх пад нагамі, бо беларускі народ сам узяўся за справу стварэння ўласнай дзяржаўнасці, што ўлада, захопленая іхнімі штыкамі, вось-вось выслізне з рук, каб трапіць да свайго праваздейнага гаспадара. У такіх умовах яны пайшлі на чарговае злачынства: Ландар аддае загад начальніку менскага гарнізона Крывашэіну без цырымоній разагнаць Кангрэс, які ў прысутнасці ўзброеных да зубоў «таварышаў» паспеў толькі выбраць Выканаўчы камітэт Савета I Усебеларускага з'езда. Гэты орган аказаўся адзіным законным носьбітам беларускага народа. Яму належала выключная роля ў адраджэнні нашай дзяржаўнасці, што і ўвасобілася ў жыццё 25 сакавіка 1918 года з абвяшчэннем Беларускай Народнай Рэспублікі. Такім чынам I Усебеларускі Кангрэс адыграў пачэсную ролю ў нацыянальнай гісторыі беларусаў.**

...Тыя падзеі, дарэчы, міжвольна штурхаюць на роздум. У пасляваенныя дзесяцігоддзі наша рэспубліка трывала, па заслугах лічылася ўзорным і самым надзейным агульнасаюзным палігонам для бясконцых эксперыментаў, задуманых у Крамлі. Адным з першых выпадкаў, калі распрацаваны ў сталіцы сцэнарый з поспехам абкатваўся на Беларусі, стаў якраз разгон у Менску I Устаноўчага Кангрэса, бо следам за гэтым бальшавікі 5(18) студзеня 1918 года жалезнай рукой разагналі ў Петраградзе і прадстаўнічы агульнарасійскі Устаноўчы Сход. I яшчэ. Да якога часу, дазвольце спытаць, вуліцы сталіцы Рэспублікі Беларусь будуць насіць імёны Кнорына, Фрунзе, Ландара, Мяснікова, іншых ворагаў беларушчыны?...

**Але вернемся ў залу Дома літаратара. Завяршаючы выступленне, А. Калубовіч адзначыў, што пасля разгону Усебеларускага Кангрэса бальшавікі прынеслі на Беларусь харчразвёрстку, чырвоны тэрор, братазабойчую грамадзянскую вайну, падзел па-жывому нашай адвечнай зямлі на карысць суседніх краін, калектывізацыю, татальны генацыд сталіншчыны...**

**На заканчэнне афіцыйнай часткі вечарыны дырэктар архіва-музея літаратуры і мастацтва Ганне Сурмач была ўрачыста перададзена на вечнае захоўванне частка архіваў беларускай эміграцыі ў Амерыцы.**

**У мастацкай частцы са сцэны гучалі вершы і песні. Прагучаў (ужо дзевяты, здаецца) варыянт новага гімна Рэспублікі «Гэй, беларусы!» (словы Анатоля Зэкава, музыка Галіны Смоляр). Тэкст добры і музыка неблагая. Але ж і гэты варыянт, на нашу думку, разам з усімі астатнімі, што афіцыйна прэтэндавалі стаць беларускім нацыянальным гімнам, не ідзе і ў слабое параўнанне з геніяльным ля-мінорным творам М. Агінскага, які ведае цэлы свет.**

**А на першым паверсе Дома літаратара прадаваліся календары «Наш край», навінкі роднай літаратуры, значкі і маркі з беларускай дзяржаўнай сімволікай, брашуры, буклеты і кніжкі, выдадзеныя пры ўдзеле ТБМ імя Ф. Скарыны. У фае другога паверха была разгорнута выстава мастакоў Міколы Крывенькі, Алеся Цыркунова і Міколы Рыжага. Тут гасцей чакала сустрэча з партрэтнай галерэяй знакамітых дзеячаў беларускага Адраджэння.**

Хочацца верыць, што не за гарамі той светлы час, калі ўгодкі I Усебеларускага Кангрэса, усіх іншых вызначальных і важных падзей сапраўднай гісторыі Бацькаўшчыны ў Рэспубліцы Беларусь будуць святкавацца не купкай свядомай інтэлігенцыі, а шырока, на дзяржаўным узроўні.

**Мар'ян ВІЖ.**

Фота У. КАРМІЛКІНА.

Ніл ГІЛЕВІЧ



# На зазімку

I

Не бушуюць мітынгі.
Не віруе плошча.
Сцягі размаітыя
Вецер не палошча.

Можа, з божай міласці
Адышла мітрэнга!
Не. Байцы стаміліся.
Перадышка трэба.

Мудрацы ў праплешынах,
Тон узяўшы роўны,
Грунт кладуць палепшаны
Пад Закон Асноўны.

А героі нацыі
У галодных чэргах.
З фразы камбінацыі
Твораць невычэрпна.

«Покуль край не выпетраў
На свабодных дулях —
Трон сюды са скіпетрам!
Заступай, татуля!

Хоць сабе карычневы,
Хоць сабе чырвоны, —
Заганяй апрычнінай
Зноў нас у загоны!..»

II

Дзень імгліцца снежаньскі.
Без душы мяцежнай
Плошча Незалежнасці
Чуецца залежнай.

Дзень празяб да дрыжыкаў.
Сцюжна. Сівер зімны.
У чаканні «пыжыкаў»
Дрэмлюць лімузіны.

З правымі і з левымі
Не знайшоўшы ладу,
Інвалід разгневаны
Выйшаў з Дома Ўраду.

У кішэнях порыцца —
Пуста! Ні цыгаркі!
Нават дыму з горычы
Не глыне пачаркі.

Лоб у шрамах хмурачы,
Сціснуў кій у пальцах:
Можа, дзе акурачак
Знойдзем на асфальце!..

# Скора, скора

Каму вас, песні?..
Янка КУПАЛА.

Скора, скора я, выкляўшы касту,
Што загнала народ у бяду,
Набяру сваіх песень у кайстру
І з кавенькай па краі пайду.

Я іх пеў і бадзёра і сумна,
На людзях і ў самотнай глушы.
Можа, часам не вельмі і ўдумна,
Ды заўсёды — ад шчырай душы.

Дзесь на плошчы, наўпрокі рэстарана,
Выну з торбы іх, раб хараства,
Дый звярнуся да тлустага пана:
«Можа, купіце — з ласкі Хрыста!»

І пазнаю яго, і з агіды
Скалануся і сплюну да ног:
Гэта ж той графаман прагавіты,
Што нядаўна ад зайздрасці дох...

Перакасіўшыся, сціснy кавеньку
Дый падамся паціху далей.
І ні стогну, ні плачу, ні енку
Крыўда-роспач не вырве з грудзей.

Пра адно буду думаць са страхам,
Каб не ўбачыла тая, крый Бог,
Што сказала мне колісь: «Ты графам
Будзеш жыць без бяды і турбот».

# Нават пекная пані

Удержи меня,
мое презренье...
С. ЯСЕНІН.

Скарпіёнскіх кампаній
У разгары пара.
Нават пекная пані
Яд пусціла з пяра.

Пэўна, годная мэта
Акрыліла на «плён»!
Дробязь: злосць на паэта,
Што не вырадак ён.

Прастакам для спажывы,
Слоў атрутных паток
Сёння ж пойдзе ў паршывы
Манархісцкі лісток.

Дзе пакутнікаў здані
Па закутках маўчаць —
Пасквіль пекнае пані
Будзе обер чытаць.

Ну, а людзі не клюнуць
На заманлівы «твор».
Не пaглянуўшы, плюнуць.
Скажуць: «Ведамы ўзор!»

Скажуць: «Пані ў аблудзе
Шлях абрала крывы...»
Я — не іншы, чым людзі.
Я — такой жа крыві.

І таму, што не іншы
І свой род вызнаю —
Ты даруй, Усявышні,
Мне пагарду маю.

# Стрэмка

Калі пералескам, між сосен,
Блукаў на змярканні паэт
І слухаў вясны сугалоссе,
І слухаў бясконцы сусвет, —

Знянацку, гняўліва, сурова,
Наўперак суладдзю ўсяму,
З нябёсаў данеслася слова
І ўдарыла ў сэрца яму.

Кальнула, як вострая стрэмка.
Каб хто тады глянуў у твар —
Напэўна, пазнаў бы па зрэнках,
Балючы які быў удар!..

Дадому ён сунуўся ценем,
А ноччу — не сплюшчыў павек.
Страшное было прасвятленне.
Бязлітасны лёсу быў здзек.

З той даты, каб справіцца з болем,
Ён варыць штовечар шалфей.
А горычы — болей і болей.
А стрэмка — глыбей і глыбей.

Час вылечыць быў бы павінен.
А вось жа бяссільны і ён.
Не выне той стрэмкі, не выне.
Не здыме той Божы праклён.

# Санет

Паэт — крыху вар'ят. Абавязкова!
Без гэтага паэзіі няма.
І не бярыся за пяро дарма,
Калі не здольны ашалець ад слова —

Ад раптам знойдзенага ў нетрах-сховах
Або ад вызваленага з ярма
Руцінных штампаў, без таўра-кляйма, —
Бы толькі што радзілася нанова.

Калі не чуеш ты яго такім —
Як полымя на ветры — трапяткім,
Бунтоўным, як віно, што дно ўзрывае,
Або гаючым, як вада жывая, —
Тады пакінь паэзію, пакінь.
Бог ад цябе твой дар яшчэ хавае.

# «АЗБУКА» БЕЛАРУСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ

**400 гадоў назад убачыла свет другое выданне Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 года**

«Статут Вялікага княства Літоўскага» 1588 года не толькі, як пісаў польскі гісторык В. Мацееўскі, «вялікі помнік заканадаўства нашай эпохі», але і найвыдатнейшы літаратурны помнік беларускага народа, які з'явіўся да таго ж своеасаблівым гарантам дзяржаўнай аўтаноміі, самастойнасці княства, яго канстытуцыяй і зводам важнейшых нарматыўных актаў адначасова.

Неабходна адзначыць, што ўсе Статуты: 1529, 1566 і 1588 гадоў вывучаны яшчэ недастаткова, а па многіх пытаннях існуюць нават рэзка процілеглыя погляды. У гэтай сувязі варта падкрэсліць, што пытанне аб чыста юрыдычнай, прававой арыгінальнасці асобных палажэнняў усіх іх, нягледзячы на прыведзенае выказванне В. Мацееўскага і думкі іншых аўтарытэтных вучоных, можа быць дэталёва вырашана толькі ў выніку аналізу аналагічных еўрапейскіх дакументаў таго часу, напрыклад, чэшскіх статутаў, апошні з якіх, Статут 1549 года, меў артыкулаў нават амаль у два разы больш. Арыгінальнасць жа Статутаў як помнікаў старабеларускага пісьменства, помнікаў старабеларускай літаратуры—бясспрэчная. Літаратурнае іх значэнне яшчэ больш павялічваецца, паколькі яны самым цесным чынам звязаны з гуманістычнымі ідэямі, пакладзенымі ў аснову гэтых кодэксаў.

Усё сказанае асабліва тычыцца Статута 1588 года, які, як ніякі іншы, аказаў істотны ўплыў на культуры суседніх народаў, у тым ліку і рускага. Палажэнні Статута былі выкарыстаны пры падрыхтоўцы такога важнага ў гісторыі Расіі дакумента, як Саборнае Улажэнне 1649 года. Выпушчанае Маскоўскім друкарскім дваром, яно ў многім арыентавалася на кніжную архітэктоніку выдання Статута. У 1811 годзе Статут быў выдадзены ў перакладзе на сучасную рускую мову ў Пецярбурзе. Яшчэ раней, у XVII—XVIII стагоддзях, ён перакладаўся на нямецкую, украінскую мову, не кажучы ўжо аб польскай, на якой вытрымаў некалькі выданняў у розных друкарнях. Беларускамоўныя друкарскія арыгіналы былі ў многіх асабістых бібліятэках вучоных, пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў Еўропы. У Расіі XVII стагоддзя, напрыклад, уладальнікамі іх з'яўляліся выдатныя рускія літаратары Нікіфар Сімеонаў і Сільвестр Мядзведзеў.

Статут 1588 года неаднаразова перавыдаваўся, разышоўся ў многіх тысячах асобнікаў і на працягу больш двух з паловай стагоддзяў не страціў сваёй сілы, служыў захаванню беларускай мовы і літаратуры, сцвярджэнню іх дасягненняў і вартасці як унутры дзяржавы, так і далёка за яе межамі.

Не дзіўна, што менавіта гэты помнік старабеларускай літаратуры, поруч з творамі Ф. Скарыны, абудзіў вялікую цікавасць у славяназнаўчай навуцы, што нарадкалася ў пачатку мінулага стагоддзя. Ён успрымаўся перш за ўсё як нейкі аазіс моўнай беларускасці ва ўмовах амаль поўнай у той час паланізацыі жывой беларускай пісьмовай культуры, яркая арыгінальнасць і колішняя еўрапейская велічнасць якой цудоўна ўгадваліся нават пры беглым знаёмстве з ім.

Менавіта гэтым Статут прыцягнуў увагу выдатнейшага філолага, вучонага з сусветным імем С. Ліндэ, аўтара аднаго з самых значных для свайго часу нарысаў пра Ф. Скарыну. С. Ліндэ вызначыў многія асаблівасці Статута як першаступеннага помніка моўнай культуры беларускага народа. Больш чым праз паўстагоддзе ў Коўне выйшла самая грунтоўная і на сённяшні дзень работа, прысвечаная гэтаму помніку — трохтомная манаграфія І. Лапо, аднаго з найбольш знакамітых гісторыкаў Вялікага княства Літоўскага. Праўда, да многіх палажэнняў гэтай па-сапраўднаму тытанічнай работы неабходна падыходзіць крытычна, калі-нікалі і вельмі, таму што сустракаюцца ўстарэлыя погляды, што мелі месца на той час, а таксама няправільнае разуменне дакумента самім І. Лапо.

Манаграфія І. Лапо завяршаецца публікацыяй тэксту Статута, якую складальнік рыхтаваў недзе два дзесяцігоддзі. Увогуле, гэта лепшая публікацыя Статута 1588 года, да якой часта звяртаюцца гісторыкі ўсяго свету. Праўда, і тут, як паказваюць нашы назіранні, І. Лапо дапусціў сур'ёзную памылку, што недаравальна для такога аўтарытэтнага гісторыка, як ён. У аснову яго выдання пакладзена не першае, як таго патрабуе аб'ектыўнасць, а другое. Такім чынам, нягледзячы на тое, што І. Лапо прыводзіць разыходжанні па ўсіх трох выданнях Статута, яго публікацыя ў пэўнай ступені страчвае каштоўнасць. Нам давялося адшукаць і той паасобнік другога выдання 1592 года, якім карыстаўся І. Лапо. Цяпер ён знаходзіцца ў зборы Расійскай дзяржаўнай бібліятэкі.

На жаль, гэтую памылку дапусцілі і цяперашнія публікатары Статута («Статут Вялікага Княства Літоўскага 1588 г. Тэксты. Даведнік. Каментарыі», Мінск, «БелСЭ» імя Петруся Броўкі, 1989). Таксама ў аснову пакладзена другое выданне, як і ў І. Лапо. Да ўсяго гэта нават не агаворана.

Улічваючы падобную акалічнасць, хочацца нагадаць, што выданняў Статута, пазначаных датай выхаду ў свет «1588», было тры. Вядома гэта яшчэ з першай паловы мінулага стагоддзя. Шмат пісаў у сувязі з гэтым такі выдатны беларускі археограф, як прафесар І. Даніловіч. Ён выказаў і вельмі смелую гіпотэзу аб мэтазгоднасці выдання трох Статутаў з адной і той жа датай. Маўляў, Мамонічы зрабілі гэта дзеля таго, каб мець больш прыбытак, паколькі кожны чарговы выпуск лічыўся першым.

У свой час намі былі ўлічаны асобнікі трох выданняў гэтага Статута — 1588 года, каля 1592 і каля 1594 года (іх удалося выявіць амаль паўсотні), якія захаваліся ў свеце на сённяшні дзень.

Арыгінальны тытульны ліст першага выдання Статута 1588 года быў паўтораны за выключэннем некаторых вельмі важных дэталяў і ў двух наступных: «Статут Великого Князтва Литовского от наяснейшого господаря короля Его милости Жикимонъта Третего на коронации в Кракове, выданы, року 1588». Далей ідзе графічны адбітак знакамітай «Пагоні» — дзяржаўнага герба Вялікага княства Літоўскага і выхадныя дадзеныя. На тытульных лістах другога і трэцяга выданняў, акрамя таго, змешчаны біблейскія цытаты ў перакладзе на старабеларускую мову, што яшчэ больш падкрэслівала дзяржаўны характар і афіцыйную значнасць гэтай мовы, напаўняла ўсю кнігу асаблівым зместам, як бы адразу ўказвала на яе прыналежнасць да тых помнікаў пісьмовай культуры, якія пазней атрымаюць найменне старабеларускіх.

Няма сумнення, што да пачатку XIX стагоддзя Статут 1588 года — галоўнае і самае важнае выданне з усіх амаль пяці тысяч друкаваных кніг, што ўбачылі свет у Вялікім княстве Літоўскім.

У адраджэнні ці ў новым нарадджэнні беларускай літаратуры і ў цэлым культуры ў XIX стагоддзі прыкметная роля адведзена і Статуту 1588 года, пацямнелыя лісты якога сталі своеасаблівай «азбукай» нацыянальнай літаратуры як для яе класікаў у асобе Янкі Купалы і Максіма Багдановіча, так і для іх сапраўднага падражальніка.

**Юрый ЛАБЫНЦАЎ.**
г. Масква.

## НОВЫЯ ВЫДАННІ

# Пасля двухгадовага перапынку

Амаль на два гады зацягнулася друкаванне трэцяга нумара часопіса беларускай грэка-каталіцкай моладзі «Унія». Нарэшце ён выйшаў і хутка паступіць у продаж.

З матэрыялаў гэтага нумара варта адзначыць урыўкі з вядомай кнігі Томаша Кэмпійскага «Следам за Хрыстом» і трактата Казіміра Сваяка «Унія на Беларусі». Цікавымі думкамі аб царкоўным календары дзеліцца з чытачамі Пётра Смык і Алег Дзярновіч, аб «Крыжовай мадэлі быцця» разважае Тацяна Шамякіна. На вокладцы падаецца цудоўная рэпрадукцыя іконы Маці Божай Менскай.

Часопіс выдадзены накладам 10 тыс. асобнікаў (палова накладу па-ўкраінску), адрас рэдакцыі—220050, Менск, п/с 224.

# Падымем «Паходню»?

Створана ініцыятыўная група па заснаванні беларускага вайсковага часопіса «Паходня». Ідэю новага выдання ўхвалілі Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, Інстытут гісторыі Беларускай акадэміі навук, Беларускае краязнаўчае таварыства і г. д.

Неабходнасць часопіса абгрунтоўваецца тым, што нацыянальнае войска мае пільную патрэбу ў выданні, якое будзе распавядаць аб багатай нашай гісторыі (у тым ліку і вайсковай), аналізаваць падзеі мінуўшчыны, якія пакінулі аб сабе памяць, расказваць аб жыцці беларускага народа, аб тых адраджэнскіх працэсах, якія адбываюцца.

Сёе-тое ў гэтым кірунку робіць газета «Во славу Родины». Ужо амаль тры гады на яе старонках вядзецца рубрыка «Беларусь: архівы часу», нядаўна з'явілася тэматычная старонка «Айчына і вера», выйшла каля трыццаці беларускамоўных старонак «Паходня».

Але сёння гэтага ўжо недастаткова. Вось і ўзнікла думка аб часопісе. Ініцыятыўная група распрацавала накід яго. Улічаны і выдаткі. У прыватнасці, калі «Паходню» выпускаць шэсць разоў на год (у перспектыве — штомесячна) аб'ёмам 12 улікова-выдавецкіх аркушаў накладам 3—5 тысяч асобнікаў, спатрэбіцца недзе некалькі мільёнаў рублёў на год. Адкуль узяць гэтыя грошы? Іх павінна і можа знайсці Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь. Калі гэтае пытанне вырашыцца станоўча, «Паходня» можа выйсці ў другой палове наступнага года.

ЛІМАЎСКІЯ ДЫЯЛОГІ



# ЦІ ВІДНО СВЯТЛО Ў КАНЦЫ ТУНЕЛЯ?



**Гутараць дырэктар Інстытута эканомікі Акадэміі навук Беларусі доктар эканамічных навук Генадзь ЛЫЧ і рэдактар аддзела публіцыстыкі «ЛіМа» Міхась ЗАМСКІ**

**М. Замскі:** — Сёння не выпадае цытаваць Леніна, і гэта не даніна часу, а канстатацыя факта — многія прароцтвы «геніяльнага правадыра працоўных свету» ў гістарычным плане не спраўдзіліся. Але, тым не менш, ленінскія словы, якія я хачу зараз нагадаць, маюць, на маю думку, універсальны сэнс і падыходзяць да розных грамадскіх фармацый. Я маю на ўвазе наступнае яго выказванне: «Ідэя ператвараецца ў матэрыяльную сілу, калі яна авалодвае масамі».

**Г. Лыч:** — Нікому гэтую думку не ўдавалася абвергнуць...

**М. З.** — Я «прыцягнуў» гэтую ленінскую цытату, здаецца, далёкую ад тэмы нашай гутаркі, невыпадкова. Па маім глыбокім перакананні, сур'ёзныя хібы ў ажыццяўленні эканамічных рэформ, наогул, у дзейнасці цяперашніх уладных і заканадаўчых структур і адсюль сацыяльная нестабільнасць грамадства ў многім тлумачыцца тым, што пераважная большасць насельніцтва бадай што не разумее мэт дэмакратычных і эканамічных пераўтварэнняў у рэспубліцы (як, дарэчы, ва ўсім СНД).

Могуць сказаць, што на пусты страўнік ніякая прапаганда не ўспрымаецца. Але, але... Вы ж паглядзіце, які прапагандысцкі апарат быў задзейнічаны КПСС на працягу сямідзесяці гадоў яе панавання. І хоць па цывілізаваных мерках савецкі народ жыў на мяжы галечы і нястачы, прапаганда «пераваг» сацыялістычнага ладу жыцця зрабіла сваю справу — мы не можам не бачыць, што атрутнае семя, што сеецца сённяшнімі апалагетамі таталітарнага рэжыму, часта трапляе на прыдатную глебу. Што дэмакратычныя ўлады супрацьпастаўляюць гэтаму? Няўцямныя тлумачэнні няўдач, папулісцкія абяцанні, якія назаўтра абвяргаюцца жыццём? Ад усяго гэтага не толькі ў класічнага абываццеля, які аб усім мяркуе толькі з пункту гледжання ўласнага дабрабыту, галава ідзе кругам. Я не саромеюся прызнацца, што дагэтуль не разумею прынцыпу ліберызацыі цэн, якая адразу абяздоліла мільёны людзей.

**Г. Л.** — Вы закранулі адну з самых балючых тэм.

**М. З.** — Наколькі мне вядома, вы часта прымалі ўдзел у распрацоўцы ўрадавых сацыяльна-эканамічных праграм. Чаму ж вы не прадугледзелі такога абвальнага росту цэн, рэзкага спаду вытворчасці?

**Г. Л.** — Я адчуваў, што вы пра гэта ў мяне спытаеце, і таму захапіў з сабой некаторыя дакументы, якія выпрацоўваліся пры маім удзеле. Адзін з іх, датаваны лістападам 1990 года, з'яўляецца праграмай пераходу тады яшчэ Беларускай ССР да рыначнай эканомікі. Працытую адно месца з гэтага дакумента. «Пераход да свабодных цэн павінен быць увязаны з павышэннем пакупніцкай здольнасці грошай». Мы ўжо тады добра разумелі, што без гэтай умовы лібералізаваць цэны вельмі небяспечна. Летам 1991 года я ўдзельнічаў у распрацоўцы яшчэ аднаго аналагічнага дакумента, які называўся: «Дзяржаўная праграма Беларускай ССР па стабілізацыі эканомікі і сацыяльнай абароне насельніцтва». Там, у прыватнасці, было запісана: «Да канца бягучага года не дапускаць павышэння існуючага ўзроўню рознічных цэн на асноўныя харчовыя тавары, якія ўваходзяць у спажывецкі кошык, і тарыфаў на камунальныя паслугі. Далейшую лібералізацыю цэн праводзіць па меры фарміравання рыначна-арыентаваных недзяржаўных сектараў эканомікі, г. зн. раздзяржаўлення, прыватызацыі і дэманапалізацыі ў сферы вытворчасці. гандлю і паслуг». Адным словам, мы звязвалі лібералізацыю цэн са стварэннем канкурэнтаздольнага асяроддзя ў галіне вытворчасці, гандлю і паслуг.

**М. З.** — Як гэта ў рускай прымаўцы: «Гладко было на бумаге, да забыли про овраги, а по ним ходить»? Дзяржаўныя манапалісты як былі, так і засталіся. Мінск мо адзіны сталічны горад у СНД, дзе з некалькіх сотняў наяўных магазінаў не прыватызаваны ніводзін.

**Г. Л.** — Каб жа нешта залежала ад нас! Пастанова, прынятая летам 1991 года, пра якую я нагадаў вышэй, была рэакцыяй на рашэнне ўрада Паўлава з першага красавіка рэзка павысіць цэны, што, як вы помніце, з'явілася прычынай страйкаў, якія пракаціліся па рэспубліцы. Але не ўсё тады было згублена. Калі б мы працягвалі ажыццяўляць прынятую праграму, мы б выйшлі з крызісу. Ды надышла зіма, вядомая тройца сустрэлася ў Белавежы, і СССР, як кажуць, загадаў доўга жыць. Пасля гэтага пайшло і паехала...

Я ўпэўнены, што ні Ельцын, ні Шушкевіч, ні Краўчук, ні кіраўнікі іншых рэспублік, што неўзабаве далучыліся да СНД, не ўяўлялі, якімі сумнымі, не, хутчэй трагічнымі наступствамі пагражае развал былога Саюза. Бяру да ўвагі толькі эканоміку, хоць у кожным з нас жыве жах перад крывавымі міжнацыянальнымі канфліктамі, якія ўспыхнулі ў некаторых рэспубліках і якія скаланулі ўвесь свет.

Тое, што я зараз скажу, ведаю, не спадабаецца многім нашым дэмакратам, асабліва дзеячам парламенцкай апазіцыі БНФ. Але я заўсёды маю звычку гаварыць тое, што думаю, не беручы да ўвагі, ці стасуецца гэта з пэўнай палітычнай кан'юнктурай. Лічу, што ці не самай галоўнай прычынай нашага заняпаду эканомікі (можна знайсці і больш жорсткую характарыстыку становішча, у якім мы апынуліся) з'яўляецца разрыў эканамічных сувязяў з рэспублікамі былога СССР. На Беларусі міжрэспубліканскія сувязі — пастаўка і набыццё прадукцыі ў вартасным вылічэнні — складалі трэцюю частку нацыянальнага даходу, а ў прамысловасці — больш паловы. Бачыце, якая была высачэзная ступень інтэграцыі.

**М. З.** — Беларусь гэтым вызначалася сярод іншых рэспублік?

**Г. Л.** — Нашы, калі можна так сказаць, інтэграцыйныя ланцугі былі ў былым Саюзе бадай самымі моцнымі. Рэспубліка цалкам залежала (і цяпер залежыць) ад прывазной сыравіны, бо ў пасляваенны час прамысловасць у нас развівалася ў напрамку рэсурсаёмістай вытворчасці — машынабудаванне, выраб хімічнай і нафтахімічнай прадукцыі. Што для нашай рэспублікі ўласныя 2 мільёны тон нафты, калі патрэба ў ёй складае каля 20—25 мільёнаў тон!

**М. З.** — У былой савецкай імперыі Беларусі быў наканаваны лёс яе зборачнага цэха.

**Г. Л.** — Нічога благога ў гэтым не бачу. Ва ўсім свеце лепей жывуць не тыя, хто мае сыравіну, а тыя, хто яе перапрацоўвае. У нас жа ўсё перавернута з ног на галаву. Лепей сёння таму, хто валодае карыснымі выкапнямі.

**М. З.** — Той можа дыктаваць сваю волю, ставіць свае ўмовы...

**Г. Л.** — Так. Камуністычнае кіраўніцтва былога Саюза лічыла, што краіна валодае невычэрпнымі крыніцамі ўсіх прыродных багаццяў — нафты, вугалю, газу, жалезных рудаў і г. д., і таму ніякай увагі не надавалася стварэнню энергазберагаючых тэхналогій — палі той нафты ці вугалю колькі хочаш. Цяпер жа, калі ўсё гэта на вагу золата, мы раптам апынуліся з нашым састарэлым і маральна і фізічна заводскім абсталяваннем ля разбітага карыта. Каб перайсці на сучасную энергазберагаючую тэхналогію, патрэбны вялікія капіталаўкладанні. А дзе ўзяць сродкі?

І вось надышло 2-га студзеня 1992 года, калі расійскі ўрад аб'явіў аб лібералізацыі цэн...

**М. З.** — Давайце пагаворым пра гэта больш грунтоўна. Я радавы грамадзянін, спажывец, не магу спасцігнуць унутраную логіку пераходу на свабодныя цэны, хоць і разумею, што ранейшыя цэны былі адвольныя і не адлюстроўвалі сапраўдных выдаткаў на выраб таго ці іншага тавару. Тым большым нонсенсам з'яўляюцца камандныя цэны ў рыначнай эканоміцы. Але нешта ў існуючай лібералізацыі цэн у маёй свядомасці не стыкуецца. Ну, добра, нафтавікі ўзнялі цану на нафту, але ж адначасова адпаведна павялічыўся і кошт нафтаздабываючага абсталявання, якім карыстаюцца тыя ж нафтавікі. Дык хто тут у выйгрышы, не кажучы ўжо пра тое, што павышэнне цаны ў адной галіне цягне за сабой цэлы шлейф уздаражання прадукцыі ў другіх? Дарагі бензін — дарагія транспартныя выдаткі, адсюль уздаражанне прадукцыі, якая перавозіцца транспартам, адсюль... Адным словам, ланцуговая рэакцыя, якая ўбірае ў сваю арбіту ўсё новыя і новыя пласты эканомікі...

**Г. Л.** — Абвяшчаючы лібералізацыю цэн, Расія, на маю думку, наперад ведала, што ад гэтага кроку меней за ўсіх страціць яна. А мо ў тым-сім застанецца ў выйгрышы.

**М. З.** — За кошт чаго?

**Г. Л.** — Разумееце, розніца паміж нашымі ўнутранымі і сусветнымі цэнамі на сыравіну большая, чым паміж цэнамі на прадукцыю перапрацоўкі. Напрыклад, унутраная цана на нафту зараз у дзесяць разоў ніжэйшая за сусветную, а, напрыклад, на трактары толькі ў два разы. Цяпер падлічыце, хто больш выйграе ад павышэння цэн да ўзроўню сусветных. Тым больш, што ў трактарабудаўніцтве адставанне ў параўнанні з заходнімі краінамі куды большае, чым у нафтаздабычы.

**М. З.** — Наколькі я ведаю, нафтаздабываючая прамысловасць у Расіі знаходзіцца ў глыбокім крызісе.

**Г. Л.** — Так, але становішча ў галінах вытворчасці сродкаў вытворчасці яшчэ больш цяжкае. Разумеючы, што ніводная рэспубліка СНД сёння фактычна не мае магчымасці купляць нафту, іншую жыццёва-неабходную сыравіну ў далёкім замежжы — няма на гэта валюты, расіяне павялі сябе, як манапалісты, дыктуючы нам свае ўмовы.

Гэта, вядома, не адзіны прыклад дзяржаўнага эгаізму, які паказвае Расія. Вазьміце пытанне з грашовай наяўнасцю. Мы ўсе помнім, як на нашых беларускіх прадпрыемствах з-за адсутнасці грошай па паўтара-два месяцы не выплачвалі заработнай аплаты. Адбылося гэта не па віне рэспублікі, а ў выніку пачатай Масквой лібералізацыі цэн, што адразу прывяло да рэзкага — у некалькі разоў — павелічэння тавараабароту ў яго грашовым вызначэнні пры ранейшай грашовай масе. Адным словам, грошай стала не хапаць. Мы папрасілі Цэнтральны банк Расіі папоўніць у рэспубліцы грашовую наяўнасць, але пачулі ў адказ, што грошы нам дадуць толькі ў якасці 21-працэнтнага крэдыту. Але ж мы не просім у вас дадатковых грошай, адказалі беларусы, аднавіце нам наяўнасць, якая існавала да лібералізацыі цэн, а мы гатовы кампенсаваць выдаткі на друкаванне асігнацый. Наколькі я ведаю, расійскі банк поўнасцю нашы патрэбы не задаволіў, у выніку чаго давялося шукаць паратунку ў выпуску «зайчыкаў», фактычна сурагату грошай, што ўнесла ў нашу фінансавую сістэму яшчэ большую блытаніну. Калі раней мы мелі адзіны эмісійны цэнтр у Расіі, дык зараз — некалькі — ці не кожная рэспубліка, якая знаходзіцца ў рублёвай зоне, пачала праводзіць эмісію грошай, што падштурхнула інфляцыю і, натуральна, новы віток цэн.

Раней у нас было дзяржаўнае рэгуляванне цэн. Няхай дзяржава выконвала гэтую функцыю дрэнна, але выконвала. Цяпер мы гэты механізм цэнаўтварэння скасавалі, нічога не стварыўшы замест яго. Адным словам, сёння ў нас няма асноўнага рыначнага механізму фарміравання цаны, які б грунтаваўся на канкурэнцыі. І гэта пры «адпушчаных» цэнах, манапалізацыі эканомікі. А што такое манапаліст, мы ведаем — у яго «одна, но пламенная страсть»: атрымаць максімальны прыбытак пры мінімальных выдатках, на астатняе яму, даруйце, напляваць.

**М. З.** — Як фарміруюцца некаторыя цэны, сапраўды зразумець немагчыма. Ну, добра, логіку ўздаражання, напрыклад, рамонту абутку ў пяцьдзесят разоў яшчэ зразумець можна: узнялася цана на «камплектуючыя» — цвічкі, падэшвы, скуру, клей і да т. п. Але ж амаль у сто разоў узрос кошт паслуг у цырульні. Тут за кошт якіх выдаткаў? Асноўнымі ж сваімі прыладамі працы — нажніцамі, грабеньчыкам ды машынкай цырульнік карыстаецца не адзін год... Яшчэ адзін зусім свежы прыклад. Літаральна днямі праводзіў сваячку на вакзал. Яна чалавек хворы, так што давялося ўзяць таксі. Па дарозе вадзіцель, малады зусім хлопец, жвава расказваў, як яму жывецца і працуецца. Аказалася, дзякуй богу, няблага. Машыны ў іх таксапарку (здаецца, трэцім) вадзіцелі ўзялі ў арэнду. Самі купляюць бензін, самі рамантуюць. Умовы ж арэнды такія: 15 тысяч рублёў выручкі ў месяц ты павінен здаць парку, астатнія, што зарабіў, — тваё. «Ну і колькі набягае сабе?» — асцярожна пацікавіўся я. «Ды ў сярэднім тысяч дваццаць, — з гонарам адказаў ён, — а нядаўна вазіў кліента ў Маскву, дык ён заплаціў доларамі, у пераводзе на нашы грошы атрымалася тысяч восемдзесят». З дому да чыгуначнага вакзала кіламетраў 8—9, узяў з нас таксіст роўна чатырыста рублёў, папулярна растлумачыўшы, што 130 рублёў каштуе выклік машыны, астатняе яго. Вось гэтыя 130 рублёў мяне зацікавілі больш за ўсё. Чаму 130, а не 100 ці 150? Як разлічылі, скалькулявалі аплату паслугі дыспетчара?

**Г. Л.** — Без дзяржаўнага ўмяшальніцтва рост цэн не спыніць. Гэта маё цвёрдае перакананне.

**М. З.** — Зноў дзяржаўнае рэгуляванне, каманднa-адміністрацыйны метад кіравання эканомікай? Як кажуць, плыў, плыў, а ля берага ўтапіўся?..

**Г. Л.** — Я не заклікаю вярнуцца ў каманднa-адміністрацыйную сістэму. Калі хочаце ведаць, я сам стары рынчнік і дэклараваў ідэі пераходу на рыначныя адносіны ў эканоміцы яшчэ тады, калі пра гэта многія баяліся гаварыць угалас. Але ў эканоміцы вельмі небяспечная паспешлівасць. Нідзе так да месца не гучыць прымаўка «Поспешишь — людей насмешишь» як у эканоміцы.

**М. З.** — Здаецца, Чэрчылю належаць словы: нельга пераадольваць бездань у два скокі.

**Г. Л.** — Правільна, але перад тым, як скокнуць, трэба набрацца сіл. Мы ж скокнулі і акурат ляцім у бездань. Гэтага Гайдару і яго камандзе дараваць нельга. Паставіўшы перад сабой высакародную мэту — прывесці краіну да рыначнай, як ва ўсім цывілізаваным свеце, эканомікі, яны пакрочылі да яе напрасткі, не выбіраючы дарогі, не лічачыся з ахвярамі і стратамі. І мы, баючыся спазніцца, пабеглі за імі. І вось маем, што маем...

**М. З.** — І якое вы прапануеце выйсце, Генадзь Міхайлавіч?

**Г. Л.** — Затармазіць, спыніцца, каб перавесці дух, пры гэтым замарозіўшы цэны і зарплату на цяперашнім узроўні. І толькі стварыўшы папярэдне неабходныя ўмовы — правёўшы дэманапалізацыю эканомікі на падставе прыватызацыі і раздзяржаўлення, пераходзіць зноў да свабодных цэн. Ёсць у нас нямала светлых галоў, не можа быць, каб не знайшлі выйсця.

**М. З.** — Вы прапануеце чакаць з мора надвор'я? А вось нашы суседзі-палякі не чакаюць. Так званая «шокавая тэрапія», якой яны некалькі гадоў назад пачалі лячыць сябе, сваю эканоміку і якая, як і ў нас, выклікала шырокую незадаволенасць — мала каму хацелася глытаць горкія пілюлі, — пачала даваць плён. Як паведамляе прэса, пераадолеўшы стартавы і самы драматычны этап рыначных рэформ, Польшча першай сярод усходнееўрапейскіх краін развіталася з няўхільным заняпадам вытворчасці. Як сведчыць статыстыка, да канца гэтага года яе рост складзе ўжо 2 працэнты. Лічыцца, што галоўная прычына пачатага ажыўлення эканомікі — наступленне прыватнага сектара. Яго доля ў стварэнні валавога нацыянальнага пра-

(Працяг на стар. 12).

Робіць яна так, на маю думку, наўмысля. Таму што такі яе спосаб пісьма — штрыхам, пастэллю, пяром. Лёгкім абрысам. Каб пакінуць чытачу магчымасць падумаць самому. Усё больш у кірунку той галоўнай тэмы. Хаця да адной тэмы заўсёды лучацца іншыя. А ўзнёсласць эмоцый прыцішваецца цвярозымі рэаліямі побыту. Як у жыцці, перакрыжоўваюцца на лініях быцця сучаснае і мінулае, надзея і шкадаванне, дабро і зло».

У мяне няма месца цытаваць тое, з чым я цалкам пагаджаюся. Думаецца мне, што прачытанне Алы Сямёнавай прозы Алены Васілевіч пакуль што найбольш адэкватнае, хоць пра яе пісалі Вера Палтаран і Міхась Стральцоў, Рыгор Шкраба і Міхась Тычына, Уладзімір Юрэвіч і Барыс Бур'ян. Сёе-тое слушнае, здаецца, удалося некалі сказаць і мне, грэшнаму.

Можна шмат гаварыць пра адметнасць творчага почырку Алены Васілевіч. Але што найбольш уражвае ў яе прозе, дык гэта сапраўды «устойлівы... настрой яе душы» (А. Сямёнава).

Як ён упрыгожвае і яе прозу, і яе чалавечае аблічча. Каму з нас, хто яе ведае, не сагрэла душу яе ветлая, вабная і такая шчырая ўсмешка. Не змушаная, не вымучаная настолькі, што ў сяго-таго проста прыклеілася да твару, стала звычкаю, а сапраўды ж — ад чыстага сэрца, вельмі ж натуральная.

І такая чалавечная, такая прыязная...

А колькі ж усяго перажыта?! Хіба ж не праўда, што менавіта яе пакаленне перанесла «неверагодны цяжар гістарычнай адказнасці за жыццё» (М. Тычына)? Але ж хіба можна аспрэчыць і той факт, што, кажучы словамі М. Тычыны, «групавы партрэт пакалення быў бы няпоўны, калі б не ўлічылі твораў А. Васілевіч»?

Твораў апошнім часам паяўлялася не так ужо і шмат. Але хіба пакінула раўнадушным таго, каму дорага роднае слова, невялічкая фарматам, але такая багатая на факты, такая мудрая і сардэчная кніжачка, як «Люблю, хвалююся — жыву»? Колькі шчыра ўсхваляваных, добрых, разумных, улюбёных, дакладна-пераканаўчых слоў у яе ўспамінах, творчых партрэтах, нават у самых невялічкіх эсэ — ну хоць бы ў той жа «Адной старонцы» пра Кузьму Чорнага. Колькі жывых запамінальных штрышкоў у чалавечым абліччы Міхася Лынькова, Івана Мележа, Яна Скрыгана знойдзе чытач на старонках гэтае кніжачкі, з якой любоўю і разуменнем прачытаны кнігі Яўгена Лецкі, Леаніда Галубовіча, Марыі Філіповіч...

Гадоў з дзесяць таму назад у вялікім артыкуле пра сапраўдныя, рэальныя і ўяўныя «нечуваныя» поспехі нашай літаратуры адзін вельмі знакаміты наш празаік ставіў яе на шостае месца (пасля І. Шамякіна, В. Быкава, А. Кулакоўскага, Я. Брыля, І. Новікава). Думаецца, расстаўляць нашых творцаў па такіх «ранжырах» — занятак марны. Але ж хіба можна ўявіць цяпер нашу прозу без славутага цыкла апавяданняў «пра Ганьку», без хрэстаматыйных апавяданняў «Пісар стрававой часці», «Карэспандэнтка», «Пані старшыніха прыехала», «Рахмат», «Марыула»?..

Калі Алена Васілевіч рыхтавала тры тамы з усяго напісанага за сваё жыццё, то, кажучы яе словамі, «узялася горача правіць і перапісваць усе... наіўныя і няўмелыя старонкі свайго пачаткоўства». Многа думала, вагалася. І нарэшце загадала самой сабе: «Здымі гэты непатрэбны грым. Перапісаць сябе немагчыма. І няма таксама патрэбы перапісваць час... Хіба ты не была шчаслівай у тыя даўнія наіўныя гады, хіба не мела шчырых сяброў і ўдзячных чытачоў, якія чакалі з табой стрэч, любілі і добразычліва вучылі цябе?.. І калі іх шчырасць і навука падтрымалі цябе — будзь і ты ім удзячнай і не імкніся здавацца лепшай, чым ты была і ёсць. Заставайся сама сабою».

Мілая Алена Сямёнаўна! Таму Вы так і дарагі нам, што ўсё жыццё застаяцеся сама сабою. Вам выпаў шчаслівы лёс — любіць свой народ, жыць яго жыццём. Хай жа надоўга яшчэ стане Вам сілы служыць аднаму яму.

**Генадзь ШУПЁНЬКА.**

---

**[Д]ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ**

# АЛЬМАНАХ ВЫЙШАЎ У ГОМЕЛІ...

Сёй-той з чытачоў, мабыць, памятае, што гадоў трыццаць назад у абласных цэнтрах рэспублікі выдаваліся літаратурна-мастацкія альманахі. Праўда, праз некаторы час гэта палічылі неапраўданай раскошай: маўляў, хопіць часопісаў, што выходзяць у Мінску. Так мясцовыя літаратары пазбавіліся важнай трыбуны, з якой можна весці гаворку з чытачом.

Гамяльчане першымі вырашылі аднавіць колішнюю традыцыю. Нядаўна яны выпусцілі літаратурна-мастацкі альманах «Магістраль-92», прысвечаны 850-годдзю Гомеля. «Магістраль» — ад назвы абласнога літаратурнага аб'яднання імя Анатоля Грачанікава. Яму ж, у сваю чаргу, назву дала першая кніга паэзіі знакамітага земляка. Рэдактары-складальнікі альманаха В. Ткачоў, В. Кіеня і М. Гулевіч маюць намер зрабіць выхад альманаха традыцыйным.

Першы раздзел «Магістралі-92» склалі творы тых, хто ўжо прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі — М. Даніленкі, М. Янчанкі, І. Сяркова, У. Верамейчыка, І. Кірэйчыка, В. Ткачова, В. Яраца, А. Сопата, І. Катлярова, Т. Мельчанкі, А. Бароўскага, С. Шах...

Другі раздзел — творы Н. Шкляравай, У. Шварца, І. Журбіна, Н. Веліковіча, М. Хамянкова, В. Кіені, В. Шаўчэнкі, У. Бабкова, У. Каленчыкава, В. Лоўгача, М. Буткевіча, якія хоць і не ўваходзяць у творчы саюз, але ўжо ці не ўсе маюць уласныя кнігі.

А на завяршэнне — творы пачаткоўцаў, членаў літаратурнага аб'яднання «Магістраль» Я. Бязмена, Л. Возісавай, Э. Усціновіч, В. Габеева, А. Дуброўскага, А. Вулаха,




Н. Пінчук, А. Алешынай, П. Рабянка і многіх іншых.

У тым, што альманах з'явіўся, немалая заслуга Гомельскага гарвыканкама (старшыня С. Гальдадзе, намеснік старшыні Э. Касых), вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш» (генеральны дырэктар С. Дрозд), Гомельскай фабрыкі «Палесдрук» (дырэктар Р. Мачульскі), Гомельскай асацыяцыі творчых ініцыятыў (прэзідэнт Н. Веліковіч), Ашхабадскай фірмы «Інфарм-кантакт» (генеральны дырэктар М. Ткачоў). Усім ім аўтары выказваюць шчырую ўдзячнасць.

**А. М.**

---

тэарэтычнай пазіцыі Сулімы сутнасныя з'яўляюцца тры моманты. Па-першае, ён мысліць у кантэксце сусветнай (прынамсі, агульнаеўрапейскай) тэмы філасофскага самапазнання. Гэта праходзіць праз увесь нарыс, які выкананы на высокім прафесійным, як любяць казаць сёння, узроўні. Па-другое, Суліма бачыць закранаемыя ім праблемы скрозь прызму неахрысціянства. Тут ён абапіраецца, як і ягоны суайчыннік Скарына, на першаснае (Новазапаветнае) хрысціянства. У гэтым сэнсе тэксты пададзены даволі ўскосна, сцісла выказаныя думкі патрабуюць свайго развіцця і больш шырокага абгрунтавання — для спецыяльнай навуковай працы.

Усё гэта ўвогуле магло б застацца прадметам выключна акадэмічных разважанняў, калі б не трэці момант, які і задае асноўны тон, складае ўвесь асаблівы пафас разглядаемага твора Сулімы. Мова ідзе пра ягоны боль за Радзіму. Словы пра Бога Волі, якія намі ўжо згадваліся, у кантэксце гучаць так:

«Бог не здрадзіць!

Толькі трэба ўмець знайсці гэтага праўдзівага Бога Волі, які дае вечнае жыццё і знайшоўшы служыць Яму з усёй рэлігійнай энергіяй Святое веры і дзел божых»...

Суліма думае не пра абстрактнага Бога, а пра «беларускі абраз агульна-людскага Бога». Самы час па стэрэатыпах абвясціць Суліму «хрысціянскім апалагетам» ці «нацыяналістам», што на працягу папярэдніх дзесяцігоддзяў і рабілася. А ці ёсць гэта апраўданым на самай справе? Карты тут блытае філасофскі падыход Сулімы да праблем жыцця. І можна не падзяляць у чымсьці ягоны светапогляд, але нельга адмовіць яму ў слушнасці шмат якіх думак. Да прыкладу, у аўтара ёсць такія ацэнкі марксізму, якім не зашкодзіла б павучыцца і быццам бы марксістам сёння.

Ёсць яшчэ адзін цікавы фрагмент, звязаны з толькі што сказаным. Прапануючы замяніць рэлігійна-філасофскі вобраз вечна актыўнага Сусветнага Духу (Гегель) яго ўвасабленнем у жывым носьбіце (Маркс), Суліма знаходзіць наступнае: «Цяпер для кожнага ясна, што самае істотнае ядро марксістоўскае сістэмы: асноўная схема вызвалення з рабства, ператварэння гэтага зла ў дабро, — гэта самыя, і ў Маркса, і ў Гегеля, — у Фіхтэ, Канта, Бэкона...».

У заключэнне паглядзім на тое, чым завяршае Суліма свой нарыс. Думкамі, якія балючыя для нас і сёння. Ён піша пра тое, што нацыянальная самабытнасць — гэта самабытнасць мовы. Жывыя міфы слоў якраз і родняць нашу свядомасць з «самім Богам-Айцом-Прыродай». Хаця я, магчыма, і празмерна захапіўся цытатамі, але цяжка абысці яшчэ адно выказванне Сулімы: «Жывая мова творыць і першую і наймацнейшую сувязь, што злучае народ у адзіным жывым целым. Гэтая сувязь — аснова ўсіх сувязей і спаек, што творацца ў далейшым развіцці і аб'яднанні народу, як вынік яго многаабразнай дзейнасці і барацьбы за сваю індывідуальнасць (...).

Моц гэтае першаасновы, гэтае першае спайкі забяспечыць нашаму народу яго самастойную вольную будучыню».

Суліма спадзяваўся на вольную будучыню Беларусі. І няхай сабе праз дзесяцігоддзі, але ягоныя спадзяванні збываюцца.

**Сяргей КУПЦОЎ.**

---

**ПРАЦЯГ РАЗМОВЫ**

# НЕ ХАЧУ ЗАСТАЦЦА ЎБАКУ...

Прачытаў у «ЛіМе» за 16 кастрычніка артыкул ці, дакладней кажучы, ліст В. Сакоўскага з Гайнаўкі «Канцлер Вялікага Княства». І мне вельмі хацелася б паспрачацца з ім наконт яго думак. Амаль ва ўсім спадар Сакоўскі пярэчыць сам сабе. Ёсць у мяне гэтая кніжка, і я чытаў даволі шмат літаратуры па гісторыі ВКЛ, і ў прыватнасці Беларусі. З чаго хацелася б пачаць? Ды хаця б з таго, што ніхто не мае падстаў сцвярджаць дакладна, які быў канцлер Л. Сапега, — ані І. Саверчанка, ані Сакоўскі, бо гэта дастаткова яшчэ не вывучана. Але, калі І. Саверчанка пісаў сваю кнігу, карыстаючыся нейкімі дакументамі, то Сакоўскі вядзе разважанні толькі на падставе дадзеных гэтай жа кнігі, што, мне здаецца, бессэнсоўна. Гэта можна было б рабіць, маючы свае крыніцы.

Далей. Аўтар пасылае праклён на Л. Сапегу за тое, што ён прыняў каталіцтва. Ну і што ж? Хіба ён упершыню сустракаецца з такой з'явай? Хіба гэта не было распаўсюджана ў тыя часы сярод шляхты і магнатаў? Як вядома, гэта рабілася больш у палітычных мэтах, а ні ў якіх іншых. Аўтар паказвае славутага Вітаўта, але, можа, ён забыў, што паважаны ўсімі беларусамі Вітаўт таксама некалькі разоў пераходзіў у розныя веры. Не ведаю, чым аўтару тых радкоў не падабаецца каталіцызм. Як вядома, ён прынёс і станоўчыя вынікі — адкрыліся школы, іншыя навучальныя ўстановы і ўвогуле было шмат чаго карыснага. Адмоўныя ж бакі можна знайсці ў любой рэлігіі, яе распаўсюджванні. Тое ж можна сказаць і аб праваслаўі, якое так абараняе сп. Сакоўскі. Хіба адкрывала праваслаўная царква тыя ж школкі для простых беларусаў? Не. Хіба не йшла яна да русіфікацыі самое сябе? І прытым русіфікуючы беларусаў, адрываючы іх ад сваіх каранёў, сваёй гісторыі, якую рабілі не толькі праваслаўе, але і той жа каталіцызм, пратэстанцтва, кальвінізм, не гаворачы пра уніяцтва. Здаецца, паважанаму сп. Сакоўскаму гэтая канфесія, як костка ў горле. Яго пазіцыя блізкая цяперашнім «правадырам» праваслаўя з Расіі. Ён не лічыць уніяцтва сапраўды народнай верай, быццам уніятамі не былі 70 % беларусаў. Як можна стварыць «штучную» веру, калі ёй верaць мільёны?.. Аўтар заклікае не кідацца ў розныя бакі, з чорнага ў белае, але сам ці прытрымліваецца ўласнай парады?

В. Сакоўскі абвінавачвае канцлера ў тым, што той, стварыўшы ўмовы для ўзнікнення уніі, сам не прыняў яе, не перайшоў ва уніяцтва. Канцлер быў вялікім палітыкам, і таму кіраваў сабой, сваімі дзеяннямі. Ён спрыяў распаўсюджванню уніяцтва сярод насельніцтва ВКЛ іменна таму, што хацеў згоды паміж асноўнымі канфесіямі — каталіцтвам і праваслаўем, і яму гэта ўдалося зрабіць.

Аўтар не абыходзіцца без абразы уніяцкай царквы, ды й не толькі царквы, але і нашай беларускай мовы. «Цэркаўкі і парафіі ўбогенькія. Стан адукацыі ніжэйшага духавенства яшчэ ніжэйшы, горшы». Далей зусім цікава. «...Яны гавораць на простай мове толькі таму, што іншай мовы не ведаюць». Можна палічыць, што сп. Сакоўскі жыў у тыя часы, калі цэркаўкі былі «ўбогенькія». А што датычыцца мовы, то мы ведаем, для каго яна была простай. Для той жа апалячанай шляхты, а потым расейскіх чыноўнікаў. Ніводзін сапраўдны беларус не скажа так аб сваёй мове! Яна не «працей» і не ніжэй за ўсе астатнія! Пакінем гэтыя словы на сумленні аўтара, толькі хацелася б дадаць — ці былі праваслаўныя папы больш адукаванымі за уніяцкіх? Можа, яны ведалі латынь, нямецкую ці польскую мову, грэчаскую? Гэта былі тыя ж цемрашалы, за рэдкім выключэннем. Так што не трэба падзяляць народ на каталікоў і праваслаўных, тут жылі ўсе разам і жылі мірна, пакуль не пачалі прывязваць рэлігійнае жыццё да палітычнага, пакуль не пачалі адны ставіць сваю рэлігію, сваё веравызнанне вышэй за іншыя.

Яшчэ. Справядлівае пытанне пра казакоў. Хто іх зваў на Беларусь? Ніхто і ніколі! Сваімі ваяўнічымі «паходамі» яны выклікалі толькі нянавісць у людзей, якія рабілі дабрабыт сваёй гаспадарцы. Вядома, што яшчэ раней Украіна «воссоединилась» з Расіяй і пад «мудрым» расійскім кіраўніцтвам яе казакі пачалі ажыццяўляць палітыку расійскай дзяржавы — усялякімі шляхамі разбураць гаспадарку ВКЛ, каб аслабіць ворагаў Маскоўшчыны. Дык аб якой вызваленчай місіі казакоў можа ісці размова? Аўтар заклікае да праўды, але чамусьці выказвае «праўду», якая патрэбна яму. Здаецца, перад гэтым лістом В. Сакоўскі кансультаваўся з Праваслаўным сінодам у Маскве — такое ўражанне ў мяне стварылася. Калі на старонках «ЛіМа» выказваюцца і такія меркаванні, то я таксама не хацеў бы застацца ўбаку.

**Сяржук ШАЎЧЭНКА.**
г. Наваполацк.

---

**НАШ КАЛЯНДАР**

●

**70 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты «Наша будучына». Выдавалася ў Гродна з 8 снежня 1922 года па 14 лютага 1923 года. Выйшла дзевяць нумароў, з якіх чатыры былі канфіскаваны. Мела рэвалюцыйна - дэмакратычны і нацыянальна-вызваленчы кірунак.**

●

**75 гадоў з дня нараджэння паэта Уладзіміра Рагуцкага споўнілася 9 снежня (загінуў у 1941 годзе). Асобныя творы змешчаны ў калектыўных зборніках «Мы іх не забудзем» (1949) і «Крывёю сэрца» (1967).**

●

**85 гадоў з дня нараджэння Уладзіміра Стэльмаха — 15 снежня (памёр 27 студзеня 1974 года). Аўтар п'ес «Шляхі», «Крушэнне рэнегатаў», «Фантан» і іншых. Выдаў кнігі «Шляхі беларускага тэатра», «Кранаючы чуткія струны душы», «Тэатр і час»...**

●

**75 гадоў з дня нараджэння Яўгена Васілёнка спаўняецца 26 снежня (памёр 23 верасня 1973 года). Пачынаў з вершаў. Выдаў кнігі прозы «Зялёныя агні», «Таццяна Ларына», «Забыты вензель» і іншыя, драму «Каралеўскі гамбіт». Займаўся перакладамі.**

●

**70 гадоў з дня нараджэння Івана Сіўцова спаўняецца 27 снежня (памёр 9 лістапада 1959 года). Пісаў вершы, аўтар аповесці для дзяцей «Самыя юныя» і рамана «Нягоды і радасці».**

# САРДЭЧНА ВІТАЕМ ДЭЛЕГАТАЎ І ГАСЦЕЙ



ЗГУРТАВАНЬНЕ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ The Society of the Byelorussians of the World

# БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Янка КУПАЛА,**

народны паэт Беларусі

## НА СХОД!

На сход, на ўсенародны, грозны, бурны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

Як роўны йдзі жыхар між роўных жыхароў,
Аддай на суд свае ўсе крыўды, слёзы, кроў.

Аб вечным катаванні, здзеку далажы
І пакажы на курганы і на крыжы.

І аб раскопаных магілах не забудзь,
Дзе груганы тваіх там продкаў косці рвуць.

Як гналі пот з цябе паны і каралі,
Як гналі проч цары з радзімае зямлі.

Як раскаваныя крывавілі рабы,
Як падаў ты ад непасільнай барацьбы.

Як Бацькаўшчыну тваю рэжуць на кускі.
Як гібнеш з дзецьмі ты ад катняе рукі —

Аддаці ўсё на суд, на ўсенародны сход
Ідзі, аграблены, закованы народ!

1918 г.

# 19-20 снежня—сустрэча беларусаў

Будаваць сапраўды незалежную дзяржаву Беларусь — гэта клопат усіх свядомых беларусаў, у якім куточку зямнога шара яны б ні жылі. І поўнае маральнае права на гэта маюць не толькі жыхары Беларусі, але і беларусы замежныя. Бо сказаў жа некалі слушна вялікі Максім Багдановіч: «Не рассталіся б мы з нашым краем, Каб было дзеля нас у ім хлеба».

Здаецца, час збіраць камяні надышоў. Таму і выступіла Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» з ініцыятываю склікаць Сход беларусаў блізкага замежжа. Першы такі Сход у гісторыі нашага народа. На пачатку восені гэтага года стварылі Аргкамітэт па правядзенні Сходу. Адразу пастараліся надаць яго дзейнасці пэўны рытм і настрой. Вось чаму абышліся, як кажуць, без вясельных генералаў у яго складзе. Удала спалучыліся тут сябры Рады «Бацькаўшчыны», урадоўцы і проста энтузіясты, адданыя ідэям беларушчыны. Праца была праароблена велізарная. Спынюся толькі на асобных момантах.

Грошы... Ва ўсім цывілізаваным свеце дзяржаўныя ўлады ахвяруюць даволі значныя сродкі на падтрымку сваіх дыяспар, на праграмы пашырэння сваіх моў і культур за межамі краіны (прыгадаем, напрыклад, хоць бы дзейнасць Інстытута Гётэ ў Германіі). А што ў нас? У нас пакуль што грошы на такія патрэбы і мэты неабходна выпрошваць. Таму — дзякуй фундатарам Сходу. Імі сталі рэспубліканскія міністэрствы — фінансаў, замежных спраў, інфармацыі, культуры і адукацыі. Ды і камерцыйная дзейнасць «Бацькаўшчыны» за апошні час дала сякі-такі прыбытак.

Штаб-кватэра... Яе ў «Бацькаўшчыны» дагэтуль няма, хоць прыняты па гэтым пытанні шэраг станоўчых рашэнняў на ўсіх урадавых узроўнях. Таму, дарагія суродзічы, пачаставаць вас гарбатай альбо даць вам пачытаць кніжку на роднай мове, прабачце, няма дзе. Дзякуй Саюзу пісьменнікаў Беларусі, Дому літаратара ды гатэлю «Беларусь», што гасцінна расчынілі свае дзверы для дэлегатаў і гасцей Сходу — іх працы і пражывання.

Дэлегаты... Раскідаў лёс беларусаў ад Бендэраў да Курылаў, жывуць яны і ў Расіі (каля 1,2 мільёна), і на Украіне (звыш 400 тысяч), і ў Арменіі (каля 1 тысячы), і ў многіх іншых месцах блізкага замежжа. Паспрабуй запрасіць усіх, каб нікога не забыць! Мы стараліся запрашаць усе беларускія суполкі, пра якія мелі хоць бы нейкія звесткі. Аб'явы пра Сход былі змешчаны ў газетах, перададзены па радыё. На Закаўказзе і ў Сярэднюю Азію інфармацыя пайшла праз каналы Міністэрства замежных спраў Беларусі. Але калі хтонебудзь застаўся па-за ўвагаю — не крыўдуйце, падавайце пра сябе голас, будзем працаваць далей разам. Усяго чакаецца на Сход ад беларускіх зямляцтваў, згуртаванняў і суполак каля двухсот дэлегатаў. Гэтульki ж дэлегатаў і гасцей запрошаны з самой маці Беларусі. Спадзяёмся, што належным чынам будуць прадстаўлены наступныя беларускія суполкі: Беларускае грамадска-культурнае таварыства (С.-Пецярбург). Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны, «Бацькаўшчына» (Масква), «Каралявец» (Калінінград), «Маю гонар» (Балтыя). «Світанак», «Раніца» (Рыга), «Сябрына», Таварыства беларускай культуры (Вільня), «Грунвальд» (Талін), Беларускае згуртаванне (Кохтла-Ярве), «Белая Русь» (Львоў), «Беларусы Карэліі» (Петразаводск), «Беларусь» (Малдова), «Беларусы Сібіры» (Новасібірск), «Зніч» (Ніжні Ноўгарад), «Беларусы Лапландыі» (Мурманск), Таварыства беларускай мовы (Прыазёрск, Казахстан), «Беларусь» (Алма-Ата), Беларускае згуртаванне вайскоўцаў (Цвер), «Суродзіч» (Якуцк) і інш.

«Бацькаўшчына» імкнецца аб'яднаць усіх беларусаў свету на грунце культурна-асветнай дзейнасці. Грамадска-палітычная арыентацыя беларускіх суполак за межамі Беларусі асаблівага значэння для нас не мае. Таму, да прыкладу, з Масквы прыедуць і сябры Таварыства беларускай культуры імя Ф. Скарыны, і рэгіянальных суполак «Бацькаўшчыны», і Беларускага народнага фронту, і Нацыянальна-дэмакратычнай партыі Беларусі, і маладзёжнай «Пагоні». Таму чакаем, што сярод дэлегатаў і гасцей Сходу будуць прадстаўнікі самых розных рэлігійных структур, рухаў і партый, навукоўцы, рабочыя, сяляне, супрацоўнікі грамадскіх фондаў, архіваў, музеяў, творчых саюзаў, бібліятэк, дзяржаўных устаноў, прадпрыемстваў і фірмаў. Няма дарогі на Сход толькі ворагам Беларушчыны, тым, хто запляміў сябе ярай антыбеларускасцю і згодніцтвам з партакратычнай наменклатурай, хто ўпарта адмаўляе беларускаму народу ў праве самому вырашаць свой лёс, быць гаспадаром у сваёй вольнай, незалежнай дзяржаве.

Праграма... Адкрыецца Сход 19 снежня 1992 года а дзесятай гадзіне ў памяшканні мінскага Дома літаратара (вул. Фрунзе, 5). Уваход — па запрашальных білетах. Вітаць Высокі Сход будуць прэзідэнт «Бацькаўшчыны» народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў і старшыня Беларускага народнага фронту Зянон Пазняк. Плануюцца таксама выступленні самых галоўных афіцыйных асоб Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь. З асноўным дакладам ад імя «Бацькаўшчыны» выступіць сябра нашай Рады доктар гістарычных навук Леанід Лыч. Тэма даклада — «Беларускае замежжа: гісторыя, сучаснасць, праблемы». Далей — выступленні дэлегатаў Сходу, ускладанне кветак да помнікаў дзеячам беларускага Адраджэння. Завершыцца дзень канцэртам майстроў беларускага мастацтва. 20 снежня чакаецца выступленне міністра замежных спраў Беларусі Пятра Краўчанкі. Вопытам арганізацыйнай працы падзеляцца сябры розных беларускіх суполак блізкага замежжа. Дакументальны фільм «Васількі за Бугам» раскажа дэлегатам і гасцям Сходу пра жыццё беларусаў Беласточчыны. У перапынках паміж пасяджэннямі супрацоўнікі міністэрстваў і ведамстваў Рэспублікі Беларусь дадуць неабходныя кансультацыі ўсім жадаючым.

На заканчэнне хачу сказаць шчырае дзякуй усім, хто прыняў актыўны і дзейсны ўдзел у падрыхтоўцы Сходу, хто будзе садзейнічаць яго паспяховай працы.

**Валеры ГЕРАСІМАЎ,**
**старшыня Аргкамітэта Сходу беларусаў блізкага замежжа.**

# З летапісу «Бацькаўшчыны»

## 1990 год

— 6 сакавіка на сходзе грамадскасці з удзелам дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР і Мінгарсавета абраны Аргкамітэт на чале з Яўгенам Лецкам і прынята рашэнне аб падрыхтоўцы Устаноўчай канферэнцыі з мэтай стварэння міжнароднай грамадска-культурнай арганізацыі па сувязях з беларусамі замежжа.

— 10 верасня на Устаноўчай канферэнцыі ўтворана Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Прэзідэнтам Згуртавання аднагалосна абраны народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў, Яўген Лецка — старшынёю Рады, якая з'яўляецца вышэйшым кіруючым органам.

— 31 снежня Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» зарэгістравана Міністэрствам юстыцыі. Упершыню ўладамі БССР дазволена выкарыстоўваць на афіцыйным бланку і пячатцы арганізацыі гістарычны сімвал «Пагоня».

## 1991 год

— З удзелам святароў ад хрысціянскіх канфесій Беларусі наладжана святкаванне ў вялікай зале Дома літаратара Каляднай вечарыны.

— Прэм'ера на Беласточчыне «Старажытнай Беларусі» з удзелам Міколы Ермаловіча. Адбыліся сустрэчы з грамадскасцю, навучэнцамі беларускіх ліцэяў і васьмігадовых школ. Падорана каля тысячы асобнікаў кніг.

— Па запрашэнні ЗБС «Бацькаўшчына» на Беларусь прыехала прадстаўнічая група суродзічаў з Амерыкі. Адбыліся сустрэчы з грамадскасцю, наведванне памятных мясцін Мінска і ваколіц.

— З 2-га па 8-га ліпеня стараннем ЗБС «Бацькаўшчына» і пры спрыянні Міністэрства культуры на Ратушным пляцы ў Таліне абсталёваны «Беларускі Дом», на грунце якога арганізаваны мастацкія выставы прафесійных мастакоў і народных майстроў, ладзяцца выступленні беларускіх акадэмічных і фальклорных калектываў.

— Праведзены «Дні Бацькаўшчыны» ў Якуціі з удзелам спеўна-танцавальнага гурта «Рунь», заслужанай артысткі Беларусі Таццяны Мархель, народнага майстра Сямёна Саўрыцкага.

— Святкаванне з удзелам фальклорнага гурта «Купалінка» юбілею Францішка Скарыны ў Рызе.

— На гары Радагошча каля Свіцязі ўпершыню наладжана Усебеларускае Купалле з удзелам беларусаў замежжа.

— Па дамоўленасці з «Літаратурай і мастацтвам» атрымана магчымасць рэгулярна змяшчаць тут старонку «Бацькаўшчыны» — своеасаблівую газету ў газеце.

— Да сотых угодкаў Максіма Багдановіча наладжаны круіз па рускіх рэках на «спеўным цеплаходзе» з удзелам мастацкіх калектываў «Жыцень», «Жавароначкі», «Музыкі», «Яблынька», артыстак Галіны і Аксені Дзягілевых. Праведзены юбілейныя мерапрыемствы ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі.

— З Кракава на Бацькаўшчыну перавезены прах волата беларускага Адраджэння Івана Луцкевіча, які перапахаваны на могілках Роса ў Вільні.

— З удзелам мастачкі Раісы Сіплевіч, народных майстроў Сямёна Саўрыцкага і Міхася Ржэвуцкага, дзіцячага ансамбля «Жаварончкі» праведзены «Дні Бацькаўшчыны» на Беласточчыне.

## 1992 год

— Прынята пастанова Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь «Пытанні Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», дзе рэкамендавана міністэрствам і ведамствам спрыяць дзейнасці арганізацыі.

— Па запрашэнні ЗБС «Бацькаўшчына» Беларусь наведвае прадстаўнічая дэлегацыя беларусаў з ЗША і Канады. Ствараецца Аргкамітэт па правядзенні Кангрэса (сустаршыні—прэзідэнт Згуртавання «Бацькаўшчына» Васіль Быкаў і міністр замежных спраў Пятро Краўчанка).

— На ахвяраванні ад беларусаў Кліўленда набыты для «Бацькаўшчыны» выдавецкі камп'ютэр і факс.

— Ад Асацыяцыі Амерыканскіх Цэркваў на «Бацькаўшчыну» паступіла значная гуманітарная дапамога, якая размеркавана сярод інвалідаў Таварыства па зроку і перададзена ў Рэабілітацыйны цэнтр у Аксакаўшчыне.

— Адбылося святкаванне сотых угодкаў шчырай руплівіцы на ніве беларускага Адраджэння Зоські Верас у Вільні.

— У Маскве па ініцыятыве рэгіянальнага аддзялення «Бацькаўшчына», Таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны, суполкі «Пагоня» наладжана святкаванне гадавіны з дня нараджэння Якуба Коласа,

— Супольна з фондам «Дзеці Чарнобыля» і часопісам «Мастацтва» наладжаны фестываль беларускага мастацтва ў Лодзі (Рэспубліка Польшча).

# СХОДУ БЕЛАРУСАЎ БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА!

## ГАДАВАНЦЫ БЕЛАРУСКАЙ ДЫЯСПАРЫ

Бацька Лены Бязрукавай — маёр былой Савецкай Арміі (па сённяшнім часе — Узброеных Сіл Расіі). Служыць у Казахстане. Да нядаўняга часу, пакуль не стала першакурсніцай педагагічнага вучылішча ў Мінску, жыла ў Казахстане і Лена. Адарванасць ад роднай па карэннях Беларусі не пазбавіла дзяўчынку чуйнага стаўлення да роднага слова. Праўда, быў і штуршок, які абудзіў прыхаваныя ў сэрцы магчымасць і жаданне выразна нацыянальнага паэтычнага маўлення. І гэты штуршок дала беларуская нядзельная школа ў Прыазёрску Джэзказганскай вобласці. Стварыў яе разам з аднадумцамі другі наш зямляк — падпалкоўнік Станіслаў Суднік. Відаць па ўсім, што ён—сапраўдны руплівец Адраджэння—і падказаў Лене Бязрукавай яе жыццёвы і паэтычны шлях.

Прапануем вашай увазе вершы чатырнаццацігадовай гадаванкі беларускай дыяспары.



**Лена БЯЗРУКАВА**

●

Чалавек без сэрца жыць не можа,
Ну а наша сэрца—Беларусь.
Мы ж усё жыццё бы ў падарожжы,
Дзе дарога—не заўжды абрус.

Мы гібеем у чужой далечы,
Кожны дзень там, кожны крок—прымус.
А далёка, бы агонь у печы,
Б'ецца наша сэрца—Беларусь.

З ёю мары, думкі і надзеі,
Мы не хочам дома госцем быць.
Мы душою ў чужыне мацнеем,
І не хочам больш без сэрца жыць!

●

Вось чалавек над кнігаю сядзіць.
Над чым ён слепіць вочы, недарэка!
Ці ж гэта ўсё спатрэбіцца ў жыцці!
Ці ж стане ён вучоным чалавекам!

Не ведае гісторыі сваёй,
Не ведае ён нават роднай мовы,
Ды ўсё ж трымае кнігу, у якой
Адны замежныя, чужыя словы.

Шаноўны! Хочацца мне вас спытаць:
Як можна, адкажыце, нашым векам
Свайго не ўведаўшы, чужое вывучаць,
Каб стаць адукаваным чалавекам!

Калі забылі пах свае раллі,
Над чым збудуеце, спытаю, веды!
А мо не позна з роднае зямлі
Яшчэ пачаць, каб сутнасць
не прагледзець!

●

Дожджык сёння зноў пажартаваў,
Быццам бы ісці да нас збіраўся,
Ды вятрыска хмары разагнаў
І наш дождж за лесам дзесь застаўся.

А дажджу чакае ўсё даўно,
Нібы госця, поле запрашае.
Ну, а ён падражніцца адно
І, як прывід, недзечка знікае.

**Рыгор БАРАДУЛІН,**

народны паэт Беларусі

## ДА БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына»

Беларусы ўсіх краёў,
яднайцеся!
Нас няшмат, а будзе менш
яшчэ,
Як адступім, зломімся пад
націскам,
Як ад нас рашучасць уцячэ.

Праз усе вякі нас толькі
ціснулі
І хадзіць хацелі як па тлі.
Нас душылі волгамі і віслямі,
Кожны тужыў зашмаргу пятлі.

Нас турылі з Бацькаўшчыны,
з Дзедзіны,
Нам, панам крывіцкае зямлі,
Котласы, Чарнобылі адведзены,
Маем права мы на мазалі.

Нас палілі, каталі, пратавалі,
Малацілі нас, нібы кулі,
Каралі, забойцы, імператары
І бацькі працоўных мас,
Калі
Беларусь, як палатніну, кроілі
На мундзіры ды на каптаны,
Каб магілы з нашымі героямі
Уціскалі валуны маны.

Над святынямі паруйнаванымі
Паклянемся дбаць пра карані.
Будзем Янкамі, а не Іванамі,
Што не ведаюць свае радні.

Працавалі мы на ўсе імперыі,
Папрацуем на сябе, браты.
Дык адродзімся душой і
вераю.
З Намі Бацька Бог
І Дух святы!

1991 г.

# ШТО ГРЭЕ СЭРЦА?

На заклік Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» ўзяць удзел у сходзе адгукнулася столькі суродзічаў, што, кажучы па шчырасці, мы напачатку на гэта і не спадзяваліся. Водгук беларускіх сэрцаў сведчыць, што ідэя яднання і ўзаемадапамогі беларусаў, пад знакам якой разгортвае сваю дзейнасць «Бацькаўшчына», блізкая нашым суродзічам, многія з якіх ужо даўно, нягледзячы на ростань з Беларуссю, захоўвалі вернасць духоўным першавыткам свайго народа, іншыя ж толькі цяпер пачынаюць дарастаць да ўсведамлення сваёй нацыянальнай прыналежнасці. Дапамагчы ім у гэтым і павінна Бацькаўшчына, узяўшы ўсіх пад сваю апеку, бо ўсе яны—і больш, і менш свядомыя — яе родныя дзеці, пра якіх яна, пад ціскам вядомых абставін да нядаўняга часу амаль зусім не клапацілася. Абставіны гэтыя памяняліся, але і ўзрасла патрэба ў абароне правоў тых беларусаў, якія сёння ўжо жывуць ці будуць жыць заўтра ў незалежных краінах, дзе існуюць розныя падыходы ў вырашэнні этнічных і нацыянальных пытанняў. Хочацца спадзявацца, што наш Сход з дапамогай дзяржаўных улад Рэспублікі Беларусь дапаможа суродзічам у вырашэнні актуальных, а нярэдка і балючых пытанняў.

Хацелася б, каб на ім быў пачуты і голас тых, хто сёння тэлефануе, шле тэлеграмы і лісты са шкадаваннем, што не здолее паўдзельнічаць у сходзе. Ліст спадара Смятанкі з Кіргізіі ў гэтым сэнсе тыповы і, мяркую, варты ўвагі.

«Шаноўны спадар Лецка! Пішу вам з «бліжняга» замежжа — з Кіргізстана. Мо яно і не такое бліжняе, бо, мусіць, да Польшчы ці да Нямеччыны будзе бліжэй, чым да нас.

Вельмі хацелася б прысутнічаць на Сходзе беларусаў. Трохі скажу пра сябе. Я нарадзіўся ў Мядзелі ў 1962 годзе, там вырас, скончыў школу, потым Віцебскі медычны інстытут, пасля размеркаваўся ў Гомель, дзе і працаваў урачом да 1988 года. У сувязі з радыяцыйным забруджаннем, якое блага адзывалася на стане здароўя майго шасцігадовага сына, быў вымушаны пераехаць на радзіму жонкі ў Кіргізію, дзе нас і застаў час развалу савецкае імперыі. Так мы і апынуліся ўдалечыні ад Бацькаўшчыны.

Сёння мы яшчэ так званае «бліжняе» замежжа, але з кожным днём шляхі нашых краін разыходзяцца ўсё далей і далей. Што нас чакае тут заўтра?.. І толькі мажлівасць у цяжкім выпадку ўратавацца на Радзіме — у Беларусі — грэе сэрца. Я звяртаюся да Сходу беларусаў: не забывайце нас, бараніце ў Менску і нашы правы, бо мы заўжды застаёмся грамадзянамі Беларусі. Вельмі хацелася б даведацца аб законе пра грамадзянства Рэспублікі Беларусь, як нам тут, у Кіргізстане, атрымаць (будзе лепш сказаць — пацвердзіць) наша грамадзянства? Ці будзе ўсё ж двайное грамадзянства для беларусаў? Мо гэта і здаецца камусьці драбязою, але трэба мець на ўвазе, што нам, бліжнім (таксама як і дальнім) беларускім эмігрантам, прыняўшы беларускае грамадзянства ў другой краіне, давядзецца ісці на пэўныя ахвяры. Па заканадаўстве аб грамадзянстве Кіргізіі мы не здолеем мець зямлю і нерухомасць (кватэру)— як не грамадзяне Кіргізстана; для нас не будзе гарантавана праца, мы павінны будзем плаціць за медыцынскае абслугоўванне, не будзем мець выдаткі на дзяцей і іншае, іншае. Дык, цікава, ці прадугледжаны ў беларускім законе аб грамадзянстве расходы на такія выплаты замежным сваім грамадзянам? Ці мы павінны будзем усё кінуць тут і вярнуцца на Беларусь? А які статус мы будзем мець па вяртанні? Якую канкрэтна матэрыяльную дапамогу? Я не думаю, што наша Беларусь такая багатая, каб у сённяшніх абставінах забяспечыць нас жыллём і г. д.

Другое пытанне — прыватызацыя. Ужо сёння тут у Кіргізстане мы не атрымаем ні капейкі на прыватызацыйны чэк, бо не нарадзіліся ў Кіргізіі і не пражылі тут 10 гадоў. Цікава, ці будзем мець права на такі чэк на Беларусі?

Цікавіць мяне і прыватызацыя зямлі на Беларусі. Я выхадзец з Заходняй Беларусі і да 1946 года мая бабуля і бацька мелі сваю зямлю, невялікі, але ўсё ж свой прыватны кавалак зямлі. У 1946 годзе нас усіх прымусова сагналі ў калгас. Ці нам вернуць тое, што незаконна забралі (я маю на ўвазе зямлю), ці мы павінны будзем плаціць дзяржаве за свой кавалак, якім яна неахайна карысталася без нашай згоды шмат гадоў? А мо яны (мая бабуля і бацька) маюць права выйсці з гэтага калгаса і забраць сваю зямлю, сваю долю ўнесенай маёмасці?

Наступнае пытанне, якое мне хацелася б перадаць на Сход, тычыцца дапамогі ў выхаванні і культурным развіцці нашых дзяцей (дзяцей эмігрантаў). Тут, у далечыні ад Радзімы, вельмі цяжка знайсці чытанкі і падручнікі для дзяцей па вывучэнні мовы, кнігі па гісторыі і культуры Беларусі. Нават на «ЛіМ» сёлета няма мажлівасці падпісацца. Дык няўжо Беларусь не зацікаўлена ў захаванні нацыянальнай свядомасці ў нашых дзяцей, няўжо не знойдзецца спосабу дапамагчы нам у гэтай праблеме хоць праз тую ж «Кніга—поштай»?

Што тычыцца нацыянальнага войска, дык я асабіста невялікі прыхільнік вайскоўцаў і вайсковай павіннасці, але з'яўляюся афіцэрам запасу і згадзіўся б адбыць свой доўг перад Радзімай у нацыянальным войску, і сыноў сваіх аддаў бы для службы на Бацькаўшчыне, дзеля абароны інтарэсаў Беларусі.

Дзякую вам, спадар Лецка, калі вы дачыталі мой ліст да канца. Прашу Вас данесці мае пытанні да ведама Сходу беларусаў. Шчыра дзякую вам асабіста, што займаецеся нацыянальна-вызваленчым Адраджэннем нашай Бацькаўшчыны. Мы ўсе за межамі Беларусі разумеем складанасць вашай барацьбы і моцна падтрымліваем вас.

З павагай —

Смятанка Ігар Генадзевіч з жонкай Аленай і сынамі Кастусём і Лявонам».

Што да гэтага варта дадаць? Што датычыцца пытанняў культурна-асветнага характару, дык, мяркую, «Бацькаўшчына» іх здолее вырашыць. Чытачы «ЛіМа», мабыць, памятаюць, што яшчэ залетась мы памясцілі на старонках тыднёвіка зварот, дзе абавязаліся выпісаць на патрэбы дыяспары столькі перыядычных выданняў, колькі нашы суродзічы пажадаюць. Свой абавязак мы вытрымалі і сёлета ў дачыненні да года наступнага. Так што газеты, часопісы і кнігі, якія захочуць мець суродзічы ў Кіргізстане — вышлем, хоць, зразумела, у сувязі з велізарным падаражаннем кошту перасылкі маем немалыя з гэтым цяжкасці.

Іншыя пытанні, пра якія слушна піша спадар Смятанка, грамадская арганізацыя пры ўсёй яе стараннасці і адданасці вырашыць не можа. Але мы пытанні гэтыя ставім. Вось чаму на Сход запрашаюцца першыя асобы Рэспублікі Беларусь. Многія нашы афіцыйныя кіраўнікі выявілі добрую заклапочанасць тым, *пра што клапоціцца* Згуртаванне «Бацькаўшчына», нашы шматлікія суродзічы. А наколькі гэта набудзе рэальнае ажыццяўленне —і павінен паказаць Сход.

**Яўген ЛЕЦКА.**

# Станецца важным крокам

## Сходу беларусаў блізкага замежжа ў Менску

Паважаныя й дарагія суродзічы!

Ад імя рэдкалегіі і супрацоўнікаў газэты «Беларус» перадаю Вам шчырае прывітанне і найлепшыя пажаданні ўдачы ў Вашым гістарычным Сходзе. Сход гэты, мы пэўныя, станецца важным крокам да пашырэння і замацавання арганізаванай сувязі беларусаў цэлага свету. У гэткай сувязі, ува ўзаемных кантактах і супрацоўніцтве ўсіх нас — найбольшая гарантыя таго, што дух незалежнасці і дэмакратычных свабодаў вытрымае цяперашні наступ на яго ды прывядзе беларускае грамадства да спакойнага і заможнага жыцця. Кожны з Вас сваім удзелам у Сходзе беларусаў блізкага замежжа дае беларусам далейшага замежжа красамоўны прыклад самаахвярнага служэння Бацькаўшчыне і гэтым спрычыняецца да мабілізацыі шырэйшых сілаў і ўзмацнення намаганняў на ейную абарону.

Моц наша ў нашай згуртаванасці. Няхай жа гэтая згуртаванасць расце і мацнее, каб вечна жыла дарагая нашаму сэрцу, вольная, дэмакратычная і мірная Беларусь.

Шчасці Вам, Божа, у працы.
Жыве Беларусь!

Янка ЗАПРУДНІК,
рэдактар.

Мангасэт.
1 снежня 1992 г.

# Выказваем удзячнасць!

**Напярэдадні святкавання 72 угодкаў слуцкага збройнага чыну ў газеце «ЛіМ» быў надрукаваны наш Зварот да эміграцыі, якая на працягу дзесяцігоддзяў свята шанавала памяць пра мужных змагароў за незалежнасць Беларусі. У адказ мы атрымалі віншавальныя лісты і тэлеграмы. На жаль, не маем магчымасці змясціць іх у перыядычным друку, але спадзяёмся, што гэта будзе зроблена ў адмысловым зборніку матэрыялаў, прысвечанаму ўгодкам слуцкага збройнага чыну, які мяркуецца быць выдадзеным Згуртаваннем «Бацькаўшчына». А пакуль што выказваем шчырую ўдзячнасць Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, доктару Язэпу Сажычу, Старшыні Згуртавання беларусаў у Вялікай Брытаніі Янку Міхалюку, Старшыні Беларускага Кангрэсовага Камітэта Амерыкі Расціславу Завістовічу, Старшыні Камітэта Сувязі былых беларускіх вайскоўцаў, рэдактару «Зважай» Кастусю Акулу, Старшыні Беларуска-Амерыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага Міхасю Калеліку і сакратару БАНРады Міколу Латушкіну, дзеючаму Старшыні аддзела Беларуска - Амерыканскага задзіночання ў Каліфорніі К. Ворту, якія ад імя сваіх паважаных устаноў і арганізацый павіншавалі ўдзельнікаў святкавання, ды пажадалі шчасця ўсяму беларускаму народу на яго нялёгкім шляху да незалежнасці, а таксама Акадэміку сусветнай Акадэміі астранаўтыкі Барысу Кіту (Нямеччына, Франкфурт-на-Майне), сп. Антону Даніловічу — паэту Янку Золаку (ЗША, Мільтоўн), сп. Р. Занькоўскаму (Бельгія, Флерэн), якія даслалі ад сябе віншаванні з пажаданнямі ўсяго найлепшага.**

**Шчырае ўсім дзякуй!**
**Жыве Беларусь!**

**Старшыня Рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»**
**Яўген ЛЕЦКА.**
**Старшыня Выканаўчага Камітэта Згуртавання беларускіх вайскоўцаў**
**Мікола СТАТКЕВІЧ.**

Выпуск «Бацькаўшчыны» падрыхтаваў Вячаслаў Рагойша.
Ганарар за публікацыю ўсіх матэрыялаў гэтага выпуску пералічваецца на рахунак «Бацькаўшчыны» для пакрыцця выдаткаў на правядзенне Сходу беларусаў блізкага замежжа.

**МУЗЫКА**

# «У якой бы раскошы ні жыў...»

**Мы паведамлялі ўжо, што група маладых дзеячаў беларускай культуры гасцявала сёлета ў нашых землякоў, якіх лёс закінуў за акіян, — нагодаю была 20-я сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі. Сярод пасланцаў Беларусі быў і кампазітар Зміцер Яўтуховіч, які спецыяльна для чытачоў «ЛіМа» падрыхтаваў гутарку з Уладзімірам Бычкоўскім — стваральнікам і кіраўніком эстраднага аркестра, папулярнага ў свой час сярод амерыканскіх беларусаў.**

**— Валодзя, ты нарадзіўся ў палескай вёсцы Шэставічы, што недалёка ад Петрыкава. Усё тваё жыццё, а яно прайшло ў асноўным далёка ад радзімы, ты займаўся музыкай. Чаму такое захапленне, няўжо з дзяцінства ты быў прылучаны да мастацтва?**

— Музыка заўсёды мяне цягнула, з дзяцінства. Будучы, памятаю, хлапчуком, я ўжо спяваў — яшчэ перад вайною... Гэта была, так сказаць, невялічая сцэна нашай вёскі Шэставічы. На жаль, не давялося мне жыць на Бацькаўшчыне і канчаць нармальна школу, як другія мелі магчымасць. Вайна гэта ўсё пашкодзіла. Але інтарэс і любоў да музыкі і сцэны мяне ніколі не пакідалі. Таму што, напэўна, чалавек нешта ў сабе мае такое, якога не можна адкінуць. Гэта — маё...

**— Вось ты іграеш на акардэоне, меў свой аркестр, якім кіраваў. Там былі і труба, саксафоны, ударныя... А ты як навучыўся граць на акардэоне?**

— Я пачаў шчэ з Еўропы, пасля вайны. Гэта ўсё былі заняткі прыватныя. Потым, калі пераехалі ў 48-м годзе ў Аргенціну, таксама займаўся прыватна. Калі пераехалі ў Паўночную Амерыку, тут ужо я займаўся больш сур'ёзна, і таксама прыватна. І вось стварыў першы беларускі аркестр у Амерыцы, у штаце Нью-Джэрзі. Безумоўна, цяжкасці былі: *ажаніўся, жонка, дзеці, праца*... Але любоў да музыкі была, нягледзячы на гэта ўсё. У аркестры пераважна было 6 асобаў, а часамі і больш. Было так: трампет (труба), 2 саксафоны — альт і тэнар, акардэон (гэта я працаваў), піяніна, ну і ўдарныя. І спявак, мой кузін Аляксей Марціновіч. І вось так мы выступалі, не толькі для беларусаў, тады нават і для іншых славянскіх груп.

**— Валодзя, так атрымалася, што тваё жыццё прайшло, я б не сказаў, гладка. Вось ты трапіў пасля вайны ў Нямеччыну. Колькі год прайшло там, чатыры ці пяць. І ты вучыўся там?**

— Так, была беларуская гімназія імя Янкі Купалы, я там быў студэнтам. І не закончыў: мы мусілі пакінуць Еўропу. Потым у Аргенціне больш як 2 гадоў прайшло. Навучыўся шмат чаму: мове, рытміцы іспанскай, асабліва аргенцінскай, гэта для мяне дало больш абшыр для музыкі.

**— І, у рэшце рэшт, Амерыка. Але Амерыка не такая, як уяўляюць нашы суайчыннікі, — машыны, хмарачосы, рознае там, — а Амерыка беларуская...**

— Заўсёды быў беларусам. І думаю кожны дзень пра Беларусь. У 60-я гады, як я тварыў у Амерыцы аркестр беларускі, нам хацелася шмат займець беларускай музыкі, але, на жаль, гэта было цяжка, таму што ў той час ішла халодная вайна паміж дзвюма краінамі. Але хацелася мець як найбольш беларускага рэпертуару. Мы ігралі розныя імпрэзы, скажам, балі, вяселлі вялікія. Дык у нас павінна было быць так, што 50 працэнтаў мы ігралі амерыканскай музыкі, якая тут іграецца, і 50 працэнтаў славянскай. Найперш была беларуская музыка, потым украінскія песні, ну, безумоўна, і расейскія мелодыі ўжывалі.

**— Аркестр, пэўна, не адзін дзесятак год працаваў?**

— Праіснаваў 25 гадоў якіх... Але было гэта з перабоямі — у музыкантаў меліся іншыя праблемы, справы. Але збіраліся ізноў, аркестр далей працаваў. Праўда, я акружаны быў вельмі здольнымі музыкантамі, падкаванымі — мне было лёгка працаваць з такімі людзьмі. Каб музыканты ў мяне былі меншага рангу, як я, дык сапраўды гэта была б цяжкасць.

**— Калі можаш, караценька паведамі пра фамілію Бычкоўскіх-музыкантаў.**

— Аляксей Марціновіч — мой дваюродны брат. Аматар-спявак. Але яму трэба даць крэдыт за яго працу. Ён выпусціў у Амерыцы ці не 6 альбомаў, маю на ўвазе кружэлак. На ўкраінскай мове, бо працаваў многа для амерыканскіх украінцаў. Выпусціў адну пласцінку на беларускай і адзін альбом на амерыканскай. Хлапец вельмі настойлівы ў сваёй працы і любіць музычную справу. Брат мой Лёня, родны... Ён не толькі пяе, іграе на саксафоне, ён іграе амаль на ўсіх інструментах, але, безумоўна, на ўсіх інструментах і віртуозам быць — гэта немагчыма... Адносна сына, Дзмітрыя Бычкоўскага, дык хачу мець тармазы на гэтым, бо кожны бацька і маці хваляць сваё дзіця.

**— Аднойчы мне трапіў у рукі царкоўны часопіс. Выданне 85-га года. На нейкай старонцы прачытаў: «Вялікі канцэрт Дзмітрыя Бычкоўскага ў Беларускім цэнтры». І Уладзімір і Зося Бычкоўскія (бацька і маці) даюць вялікі банкет у гонар заканчэння сынам музычнага каледжа. Дзе ён вучыўся?**

— Спачатку — у нашым гарадку Саўт-Рыверы, калі яму было ўжо якіх 13 год, прафесарка Валконская прыняла яго прыватна як студэнта. Прыблізна на 2 гады, каб узяць потым у музычную школу «Манхэтэн скул оф м'юзік» у Нью-Йорку. І там ён быў прыняты для падрыхтоўкі ў кансерваторыю... Потым у каледжы вучыўся ў прафесара Г. Патрык. Ёсць вядомае трыо, у каторым удзельнічае сам прафесар, — Вердзі-трыо. Яны аб'ехалі ўвесь свет: піяніна, кларнет і скрыпка. Дзмітрый, калі закончыў каледж, зрабіў свой «рысайдл» — экзамен, ці што. Сабралася вельмі шмат народу. Рэпертуар быў салідны: творы Шапэна, 2-гі фартэпіянны канцэрт Рахманінава і шмат іншага, — я зараз ужо не памятаю. А пасля заканчэння каледжа сын паступіў у «Радкерс», дзе здаваў на «мэстэр дыгры».

**— А што значыць «мэстэр дыгры»: права выкладаць, можа?**

— Так, так. І вышэйшая ступень навукі.

**— Зараз аркестр Уладзіміра Бычкоўскага, на жаль, спыніў дзейнасць, але ты перадаў эстафету свайму сыну. І акрамя прыватных вучняў, якія, я чую, цэлымі чародамі ходзяць да яго хаты, ён мае шмат выступленняў. Дзе выступае?**

— Ну, выступае ў вялікіх гатэлях, залах, часамі ў рэстаранах. Безумоўна, ён вучыўся быць «класікам», а паколькі змяніў сваю думку, мне гэта, разумееце, усё роўна як рашпілем па сэрцы. Ну, калі чалавек захацеў... Абы толькі музыкай займаўся, — мне ўсё роўна радасна за тое.

**— Што тычыцца Джыма Бычкоўскага, дык я зразумеў, што ён не прагне папулярнасці, павярнуўся да яе спіной. Я маю на ўвазе рэкламу, радыё, тэлебачанне.**

— Ён проста не шукае яе. Ужо колькі разоў мы гаварылі: «Чаму ты вышэй не йдзеш?» А ён кажа: «Мне добра жывецца. Працы шмат маю. Я кожны дзень начую дома. І жонка дома. І свой дом бачу...»

**— Ніякі шоу-бізнес яго не цікавіць?**

— Абсалютна. Проста ён хоча спакойна прыехаць дадому кожную ноч. Магчыма, і гэтак...

**— У любым выпадку я хачу павіншаваць цябе: у Джыма і поспехі музычныя, і з тваіх дзяцей (а ты маеш жа яшчэ дзвюх дачок) ён найбольш, мне здаецца, дасканала гаворыць па-беларуску, хаця і з акцэнтам.**

— Галоўнае, стараецца. І калі-небудзь, я гэтага хацеў бы, ён прыехаў бы на Беларусь. А ён кажа, што паедзе, але толькі са мною...

**— А колькі год ты жывеш у Саўт-Рыверы?**

— 35 гадоў.

**— Ну дык раскажы пра беларускае жыццё тут.**

— Маем свой прыход, свой Беларускі цэнтр, пабудавана царква, парк каля яе, зала, што належыць да царквы, унізе друкарня невялічкая, дзе даводзіцца выпускаць якіясь брашуркі ці нават журнальчыкі. Людзі працуюць, сходзяцца пасля працы. Беларуская гутарка не замірае. Праўда, калі маладзейшыя былі, дык было і больш ажыўлена. Цяпер шмат пенсіянераў. І мне б хацелася, каб больш беларускіх маладых людзей наведвалася да нас і па магчымасці заставаліся тут нават пажыць, аднаўлялі б нашу беларускую культуру, нашу традыцыю, і так далей. Я б гэтага жадаў з вялікай прыемнасцю: Саўт-Рывер з'яўляецца як бы тутэйшай беларускаю сталіцай. Наш Менск!

**— Дарэчы, прыгадай тваю вандроўку ў Менск, на Беларусь, у верасні 89-га.**

— Тры тыдні прабыў. Што сказаць... Беларусь для мяне паказалася не той, што я думаў паглядзець. З аднаго боку, вельмі прыгожа было, з другога — я не мог прыпомніць, ці сапраўды я на Беларусі быў. Менск прыгожы горад. У той час, як я быў, — чысціня. І я так заглядаў кожнаму менчуку ў вочы і хацеў даць зразумець гэтым людзям, наколькі сэрца маё засумавала за Беларуссю! Хоць я і выехаў з Беларусі, як мне было каля 11-ці год. І мне здавалася, што кожны чалавек, каторы ішоў па вуліцы, — мой родны брат ці сястра. А з боку эканамічнага — дык гэта ўжо другі пагляд. Ты ўжо сам, Дзіма, бачыш, як тут, у нас, і як у вас. Безумоўна, вялікая розніца.

Калі ў Менску з самалёта злез, я пацалаваў беларускую зямлю. Людзі на мяне некаторыя глянулі, падумалі, што з гэтым чалавекам нешта «не таго». Калі зайшоў я ў аэравакзал, я быў ужо апошні там, дзе правяралі, адзін з таможнікаў кажа: «А вот этого типа нужно тщательно проверить». І так у мяне сэрца задрыжала. Калі яны правяралі розныя рэчы, якія я вёз для сваіх родзічаў, знаёмых, аднасяльчан, яны доўгі час марнавалі з гэтай праверкай, а потым адзін, высокага росту, падышоў і на беларускай мове звярнуўся — мне так прыемна было, што ён адчуў мяне, бо ўва мне нешта было трывожнае. Ён кажа: «Слухайце, хлопцы. Хопіць мучыць гэтага чалавека».

**— Валодзя, ты паездзіў тады па Беларусі. Ты баяўся КДБ?**

— Баяўся. Баяўся выязджаць з Менска. Дзе ні еду, я калаціўся. Мне ў АВІРы сказалі, каб я ўзяў пропуск, каб, прынамсі, паехаць хоць бы на Мазыр. Мне сказала адна дзяўчына, што калі я не вазьму гэты дазвол, то «смотрите, — гаворыць, — могут быть очень плохие последствия». А ўсё ж такі паехаў на Петрыкаўшчыну. І пабачыў людзей, сустрэў аднасяльчан, і дзядзьку свайго роднага бачыў. У Шэставічах я моцна расплакаўся. Гэта мая радзіма, родны бераг Прыпяці. І каля яе пахадзіў, грыбы збіраў. І як бы яно ні выглядала, але гэты край будзе цягнуць, у якой бы раскошы чалавек ні жыў, усё роўна будзе вабіць свая родная зямелька.

**— А ці сустракаўся ты з музыкантамі ў Менску?**

— Я меў гонар пазнаёміцца ў філармоніі са спадаром Гільдзюком. Мне вельмі спадабалася, ён вельмі культурны чалавек, валодае беларускай мовай вельмі прыгожа, я б сказаў. А на другі ці на трэці дзень мяне прыняў Саюз беларускіх кампазітараў. Я меў размову, кароценькую такую. Адзін, каторы са мной размаўляў, дык ён гаварыў з акцэнтам, як чужынец, я б сказаў, — беларускую мову вельмі дрэнна ведаў. І ўсё выбачаўся, што ў яго не атрымоўваецца беларуская мова. А вось Яўген Паплаўскі, малады кампазітар, які зрабіў мне кантакты з гэтымі людзьмі ў саюзе, размаўляе вельмі прыгожай беларускаю моваю.

**— Дарэчы, я, Валодзя, ужо неаднойчы казаў у прэсе пра тое, што суполка беларускіх кампазітараў ёсць фармальная, небеларуская арганізацыя. Можа, калі зробім там «гурток беларускай мовы», некаторыя людзі пачнуць вывучаць яе? Але я знаю, што Віктар Войцік, напрыклад, Ларыса Мурашка, Уладзімір Буднік, Ігар Лучанок і некаторыя яшчэ добра гавораць па-беларуску. А рэшта — што казаць... А яшчэ з якімі музыкантамі былі сустрэчы?**

— Ну, было яшчэ, калі мы зайшлі ў рэстаран, недалёка ад Ленінскага праспекта. Не ведаю, у якім гэта мейсцы было. Вечарам было, аркестр быў. Я папытаўся, падышоўшы: ці можна што-небудзь з беларускіх песень зайграць. Музыкант адвярнуўся і недружалюбна сказаў: «Попозже». Мы заказалі сабе штось з'есці, выпілі шампанскага. У мяне настрой стаў больш смялейшы, і зноў да гэтага аркестра — *каб зайгралі што-небудзь беларускае*. Зноў мне адмовілі. Калі ў іх быў перапынак, дык я пайшоў за сцэну. Увесь аркестр там сядзеў. Прыблізна 6 асобаў. Я прывітаўся і зноў зачаў гаварыць, дык яны зразумелі, што я не з Беларусі, а з якоясь чужой краіны, бо злавілі словы, якія я ўжываў, небеларускія. Калі я сказаў, што з Амерыкі, беларус, дык яны ўсе ўсхапіліся, паздароўкаліся са мною. Я ім маленькі падаруначак даў ад сябе, значыць. Дык яны сказалі: «Ну, цяпер будзем мы табе ўжо іграць беларускую музыку».

**— І што яны зайгралі, цікава?**

— Я нават не зразумеў, што гэта было. Мне здаецца, што песня тая была падобна на расейскую песню «Калінка-малінка».

**— А ці не схадзіў ты ў тэатр, напрыклад, у купалаўскі?**

— Толькі ў цырку быў адзін раз. Вельмі спадабалася. І, між іншым, у цырку аркестр мне спадабаўся вельмі. Іх, здаецца, чалавек 16 ці колькі там. Прыгожа ігралі, так што я мусіў пайсці з музыкамі пазнаёміцца. Калі прыйшоў — я ж, безумоўна, беларускай моваю гаварыў так, як яе ведаю з дзяцінства, — на мяне падумалі, што я з якоясь вёскі хлапец. Я ім сваю візітоўку даў, што я таксама музыкант і гэтак далей. Тады шчэ адзін музыкант падышоў, пазнаёміліся. Ён мяне павёў, паказаў, якая інструментацыя ў іх на сцэне. Было вельмі цікава.

**— Валодзя, ты бачыў нашых музыкаў, спевакоў і тут. Бо прыязджалі «Лявоны» з Воранава, Валянціна Пархоменка з ансамблем сваім колішнім «Жывіца» выступала, мы вось цяпер — з паэтам Пранчаком, спевакамі Афанасьевай і Скорыкавым. Што ты можаш пажадаць?**

— Пажадаць, каб прыязджалі больш з беларускім рэпертуарам. І наогул, каб тварылі з беларускім пачуццём і каб быў фундамент беларускі. Я не супраць ні расейскай мовы, ні ўкраінскай, ні польскай. Але каб яны тварылі штось беларускае, і на гэтым фундаменце ўсё другое тварылася.

**— Дзякуй за такое пажаданне. Я думаю, многія цікавяцца думкай эмігрантаў-беларусаў і прыслухоўваюцца да голасу Уладзіміра Бычкоўскага, музыканта-універсала, беларуса з Палесся, якога лёс хлапчуком закінуў на чужыну.**

**Зміцер ЯЎТУХОВІЧ.**

# Гучала музыка ў Смаргоні

## II фестываль-конкурс імя М. К. АГІНСКАГА

Аб праблемах музычнага жыцця нашых правінцыйных гарадоў можна расказваць у гнятліва аднастайных танах. Каму падасца навіной адсутнасць канцэртаў, беднасць рэкламы, слабасць матэрыяльнай базы мясцовых культурных арганізацый і канцэртных калектываў, неўладкаванасць побыту музыкантаў, адсутнасць кампетэнтных рэцэнзій у прэсе? Відаць, таму правядзенне II фестывалю-конкурсу імя М. К. Агінскага ў Смаргоні, непадалёк ад Залесся, дзе некалі жыў кампазітар, сталася адной з самых яркіх падзей музычнага жыцця горада.

У Смаргоні здаўна шануюць імя вялікага музыканта: ансамбль песні і танца названы яго імем; ужо каторы год робяцца спробы рэстаўрыраваць былы маёнтак, і работа пакрысе рухаецца. Але ўсё ж, напэўна, самы лепшы помнік кампазітару — гэта фестываль яго імя, які вось ужо другі год робіцца знамянальнай падзеяй і для ўдзельнікаў, і для слухачоў. Нягледзячы на шматлікія цяжкасці, у тым ліку фінансавыя, арганізаваны фестываль быў цудоўна. Вялікая заслуга ў гэтым — загадчыцы аддзела культуры А. Шыцікавай, гарадскіх улад.

Свае канцэртныя праграмы да фестывалю падрыхтавалі піяністы, скрыпачы, віяланчэлісты; былі таксама прадстаўлены скрыпічныя ансамблі. У творчым спаборніцтве ўдзельнічалі навучэнцы музычных школ Гародні, Маладзечна, Ліды, Слоніма, Вілейкі, Шчучына і, вядома, Смаргоні. Кожны ўдзельнік выконваў тры творы; акрамя твораў Міхала Клеафаса Агінскага, выконвалася музыка розных эпох і стыляў: творы І. -С. Баха, Г. Ф. Гендэля, венскіх класікаў і рамантычныя мініяцюры Ф. Шапэна, Э. Грыга, І. Брамса; руская музыка XIX ст., сучасных замежных і беларускіх кампазітараў. Спонсары фестывалю падрыхтавалі спецыяльныя прызы — за лепшае выкананне твораў беларускага і польскага аўтараў. Іх уладальніцамі сталі Ганна Мякшыла з Ліды (за выкананне твора беларускага кампазітара) і Ганна Грыц са Смаргоні (за выкананне музыкі польскага аўтара).

Няпростай была задача журы: з мноства выбраць самых таленавітых, яркіх і самабытных выканаўцаў. Узровень майстэрства асобных удзельнікаў конкурсу быў дастаткова высокі, асабліва ў піяністаў. Думаецца, з многіх дзяцей могуць вырасці цудоўныя музыканты. Прыцягнула ўвагу слухачоў ігра піяністкі Т. Захаравай з Маладзечна, вучаніцы 8 класа (клас С. Шпадарука). Складаная праграма, віртуозная тэхніка, яркае і тэмпераментнае выкананне парадавалі публіку. Канкурсантка падзяліла 1 месца з А. Пятровым (Гародня). Выкананне ягонае вызначалася многімі вартасцямі. Акрамя звання лаўрэата, Аляксей атрымаў прыз за лепшае выкананне твора М. К. Агінскага.

Цікавае было выступленне А. Дзяругі: ягоная яркая выканаўчая манера прывабіла і слухачоў, і журы. У выніку ў Сашы — III месца. Другое не аддадзена нікому, як і ў малодшай узроставай катэгорыі. Сярод малодшых вылучыліся П. Ялецкі (1 месца) з Маладзечна і лідчанка І. Трубеева (III месца), адна з самых юных удзельніц спаборніцтва.

А вось вынікі выступленняў струннікаў аказаліся больш нізкімі. Толькі адзін са скрыпачоў, С. Касмачоў, атрымаў прызавое месца — трэцяе; І і II не прысуджаліся ўвогуле. Сярод віяланчэлістаў уладальніцай другога месца стала М. Сяргей, на трэцім — С. Ярылін (абодва канкурсанты з Гародні). У конкурсе ўдзельнічалі два ансамблі скрыпачоў — са Смаргоні і Слоніма. Першынство прызнана за калектывам са Смаргоні (кіраўнік С. Коваль).

Конкурс-фестываль завяршыўся; адгучалі фанфары паланеза «Развітанне з радзімай», які зрабіўся музычным сімвалам фестывалю. Што ж далей? Магчыма, у перспектыве конкурс юных выканаўцаў перарасце ў міжнародны. Бо ў фестывальнай канцэртнай праграме ўжо сёлета ўдзельнічалі юныя музыканты з Польшчы. Іх сіламі на сцэне Палаца культуры, дзе праходзіў фестываль, быў пастаўлены мюзікл.

Ва ўсіх, хто хоць неяк дачыніўся да фестывалю, засталося пачуццё ўдзячнасці арганізатарам: за тое, што, насуперак розным складанасцям, свята музыкі адбылося, за выдатную арганізацыю мерапрыемства. Прадумана было ўсё: і афармленне залы з эмблемай на сцэне, выкананай з вялікім густам і пачуццём сучаснасці, і ўзнагароды — памятныя падарункі, медалі. Самых цёплых слоў заслугоўваюць спонсары фестывалю — прадпрыемствы і арганізацыі горада: завод аптычнага станкабудавання, вытворчае аб'яднанне «Смаргоньсілікатбетон», ліцейна-механічны, камбікормавы заводы і іншыя, без матэрыяльнай падтрымкі якіх многае проста не ажыццявілася б.

Адзінае сур'ёзнае, на мой погляд, упушчэнне — адсутнасць адпаведнай рэкламы. Пра музычнае свята паведамляла толькі адна афіша — каля Дома афіцэраў. Ніякіх абвестак у друку, ніякіх аб'яў. Недахопу ў слухачах, праўда, не было. На конкурсе прысутнічалі педагогі-музыканты, проста аматары музыкі, невялікае кола мясцовай інтэлігенцыі, школьнікі, якія прыходзілі разам з настаўнікамі. За два фестывальныя дні яны пачулі шмат музыкі, якая адпавядае самым вытанчаным густам.

Для выступлення на цырымоніі адкрыцця быў запрошаны калектыў з Маладзечна — Народны сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам Г. Сарокі. З майстэрствам і прафесіяналізмам калектыў выканаў разнастайную канцэртную праграму (творы В. Моцарта, Ш. Гуно, С. Рахманінава, В. Іванова). Арганічна ўліўся ў святочную атмасферу і выступленне ансамбля імя М. К. Агінскага. Падкрэслена элегантны танец пад музыку «Развітанне з радзімай» і заключнае выступленне хору пад кіраўніцтвам А. Ляха паспрыялі творчай атмасферы.

Вось і ўзнікае шкадаванне: была б усяму гэтаму адпаведная рэклама, фестываль змог бы прыцягнуць значна большую колькасць слухачоў да мастацкіх каштоўнасцяў мінулага і сучаснасці, абудзіць цікавасць да сур'ёзнай музыкі.

А ўвогуле даў фестываль многае: навучэнцам музычных школ — магчымасць праявіць сябе, дамагчыся рэальных творчых вынікаў, пазнаёміцца з вопытам іншых, набыць арыенціры, якія памагаюць знайсці сваё месца ў жыцці; слухачам — далучыцца да свету цудоўнага не ў выглядзе музычных «кансерваў», а ў жывым гучанні, што асабліва важна для нас, не надта спешчаных канцэртамі і мерапрыемствамі такога роду.

Вялікую цікавасць да фестывалю праявіла Міністэрства культуры рэспублікі: сярод членаў журы, у склад якога ўваходзілі работнікі культуры Смаргоні, Маладзечна, Гародні, былі два прадстаўнікі МК: А. Сцепанцоў і В. Выстаўкін. У будучым Міністэрствам плануюцца спецыяльныя прэміі для пераможцаў.

Перспектывы ў фестывалю-конкурсу вялікія: у далейшым да ўдзелу будуць далучаны юныя музыканты з Польшчы і Літвы, а гэта паставіць яго ў лік мерапрыемстваў рэспубліканскага маштабу.

**Вольга КУРАЧКІНА,**
**выкладчык СШ № 5 з музычным ухілам.**

г. Смаргонь.

**НАРОДНАЯ ТВОРЧАСЦЬ**

# УСЕ ДАРОГІ ВЯДУЦЬ У РЫМ

**Двойчы выязджаў сёлета на фальклорныя міжнародныя фестывалі пінскі народны ансамбль танца «Палессе». Вясной адбылася паездка ў Турцыю, а праз колькі часу—не менш адказная творчая сустрэча з італьянскім гледачом. Вось што расказаў мастацкі кіраўнік калектыву Ігар СМІРНОЎ:**

— Нам пашчасціла выступаць на сцэнах Еўропы, Азіі, Паўночнай і Паўднёвай Амерыкі, Афрыкі. Кожная паездка была па-свойму цікавай і незабыўнай... У 1989 годзе мы ўдзельнічалі ў міжнародным фальклорным фестывалі ў Польшчы. Нашы хутка падружыліся з танцорамі італьянскага ансамбля «Монці Лепіні» з Маенцы. На вечары дружбы абмяняліся адрасамі і дамовіліся пры першай жа магчымасці з'ездзіць адно да аднаго ў госці. Летась у Пінску пабываў ансамбль з Італіі. Ну, а наша сёлетняя вандроўка ў адказ была прымеркавана да свята фальклорнага танца ў горадзе Маенца. Прычым, мы не прасілі ў гарвыканкома грошы на паездкі — ні ў Турцыю, ні ў Італію. Абышліся ўласнымі сродкамі (у тым ліку і заробленымі на канцэртах). Плюс дабрачынная дапамога паважаных спонсараў. А ў Італіі нас чакаў прыемны сюрпрыз. Праз некалькі дзён пасля прыезду ў Маенцу ў знакамітым горадзе Пізе пачынаўся буйны масавы фальклорны фестываль. І кіраўнік «Монці Лепіні», ён жа прэзідэнт фальклорнай асацыяцыі Рымскай акругі сеньёр Палідора Альда праявіў, як у нас кажуць, ініцыятыву і падаў у аргкамітэт Пізы заяўку на ўдзел у фестывалі ансамбля «Палессе». Натуральна, мы з удзячнасцю ўспрынялі гэтую навіну.

У Маенцы свята танца было досыць сціплым па маштабах. Удзельнічалі толькі італьянскія танцавальныя групы, «Палессе» і ансамбль з Луганска. Як заўсёды, напачатку — маляўнічае шэсце-парад. Потым на адкрытай эстрадзе ў прысутнасці тысяч гледачоў адбыўся гала-канцэрт. «Палессе» выступіла з поўнай праграмай. Амаль паўтары гадзіны тэмпераментныя італьянцы апладзіравалі пінскім танцорам і музыкантам. На фестывалі ў Пізе былі прадстаўлены ансамблі з Мексікі, Бразіліі, Уругвая, Югаславіі, Францыі і, вядома, Італіі. Тут фестываль атрымаўся сапраўды грандыёзным. І па колькасці ўдзельнікаў, і па колькасці гледачоў. Здавалася, усё насельніцтва горада сабралася да сцэны, на якой госці і гаспадары дэманстравалі свае лепшыя танцы. Мяне могуць абвінаваціць у нясціпласці, але ж гэта факт, што і ў Пізе «Палессе» здолела заваяваць найбольшыя сімпатыі як у журы, так і ў публікі. Невыпадкова на галоўным канцэрце ўсім іншым дэлегацыям было вызначана для выступлення па 20 мінут, а нам — 40. Мы завяршалі свята. Адзначалі калектывы арыгінальнымі ўзнагародамі. Нам дасталіся два паўметровыя вельмі прыгожыя кубкі.

Прабыўшы тыдзень у гэтай дзівоснай краіне, разумееш, чаму сюды так цягнуцца турысты з усяго свету. Бо тут цэнтр старажытнай сусветнай цывілізацыі, а прырода надзелена дзівоснай прыгажосцю, мяккім кліматам, цёплым морам. На лета ў Маенцу з'язджаюцца адпачываць тысячы жыхароў Рыма. Дарэчы, па просьбе адпачываючых наш ансамбль даў невялікі канцэрт у адным з высакагорных рэстаранаў. Здзіўляе чысціня на вуліцах, багацце кветак, клопат уладаў пра добраўпарадкаванне кожнага кавалачка зямлі. Пабывалі мы таксама на экскурсіі ў Неапалі. Прывялі нас дарогі і ў Рым. Змястоўную экскурсію, якая завяршылася на тэрыторыі Ватыкана, вёў спецыяльна запрошаны архітэктар адной з рымскіх майстэрань. Па-свойму ўразіла і Піза, якая славіцца архітэктурнымі шэдэўрамі, у ліку якіх і славутая падаючая Пізанская вежа. Хацелася б верыць, што нашы сувязі з італьянскімі танцорамі з горада Маенцы будзе прадаўжацца. Бо мова мастацтва заўсёды была самай надзейнай мовай міру і дружбы.

**Інтэрв'ю ўзяў**
**С. ШАПІРА.**

г. Пінск.

**ТЭАТР**

# Паводле правілаў гульні

«Такога на прылаўках нашага кірмашу яшчэ не было. Спектакль на два вечары. «ЧП-1» і ЧП-2». Заняты ўсе артысты тэатра. Вольныя рэжысёрскія імправізацыі заслужанага дзеяча мастацтваў Барыса Эрына на тэму камедыі М. В. Гогаля «Рэвізор». Пакаваць вам тавар з розных бакоў? Калі ласка!» — гэта характарыстыка будучай прэм'еры коласаўцаў, дадзеная на рэкламным вечары «Інтрыгі тэатральнага сезона», які адбыўся ў тэатры 3 лістапада 1992 года.

А што ж на самай справе чакае гледачоў, якія набудуць білеты адразу на два спектаклі «ЧП-1» і «ЧП-2»? Паспрабуем растлумачыць. Камедыя М. В. Гогаля «Рэвізор» прапанавана ў рэпертуар тэатра мастацкім кіраўніком Барысам Эрыным. Але як сёння іграць «Рэвізора»? У творчасці Гогаля нечакана спалучаюцца побыт, абсурд, пародыя, фантасмагорыя. А як знайсці ўсё гэта ў хрэстаматыйнай камедыі «Рэвізор»? Рэжысёр запрашае гледача паразважаць разам з пастаноўшчыкамі спектакля. Прапануюцца, напрыклад, тры варыянты адной і той жа сцэны «Да нас едзе рэвізор». У першым варыянце (так бы мовіць — традыцыйным) іграецца страх перад нечаканым паведамленнем. У другім моцная кампанія чыноўнікаў знойдзе выйсце з любога крытычнага становішча. У трэцім (самым рызыкоўным на тэатры варыянце) — пародыя на адно з пасяджэнняў у «вярхах», дзе «вярхоўны» Гараднічы, паведамляе саратнікам аб прыездзе рэвізора, а сам ён ужо «такія-сякія захады зрабіў». У наступнай сцэне акцёры на вачах у гледача стараюцца спалучыць у адным варыянце ўсе тыя знаходкі, што адзначаліся ў розных варыянтах толькі што сыграных сцэн. І гэта атрымліваецца ў дастатковай ступені дакладна. Нараджаецца своеасаблівы жанр. Эклектыка — закон гэтага жанру.

А ў сцэне сустрэчы Гараднічага з Хлестаковым у гасцінічным нумары адбываецца першае знаёмства гледача з тым, каго прымаюць за рэвізора жыхары гэтага гарадка. Якім жа можа быць Хлестакоў у прапанаваным тэатрам жанры спектакля? Шматаблічным. Вось чаму ролю яго выконваюць адразу чатыры маладыя акцёры: В. Асвяцінскі, Г. Гайдук, Г. Кірпічоў і М. Краснабаеў. Хлестакоў бачыцца Гараднічаму (Ф. Шмакаў) у самых розных абліччах у залежнасці ад таго, як і пра што ідзе размова менавіта ў гэты час.

Спектакль «ЧП-1» заканчваецца сцэнай хлусні Хлестакова на прыёме ў Гараднічага. Чыноўнікі ў сваіх дзеяннях даходзяць да абсурду. Іх сляпая вера ва ўсё, што гаворыць Хлестакоў, выклікае смех, а самае вар'яцкае тое, што хлусні ўзведзены помнік. Ці надоўга? Вось гэтае пытанне застаецца нявырашаным. Інтрыга будзе трымаць гледача да наступнага вечара...

Я не бяруся зараз пераказваць змест п'есы. Мне хацелася паведаміць вам пра тыя знаходкі ў пастаноўцы «Рэвізора», якія зроблены на коласаўскай сцэне. Тут вы ўбачыце і пародыю на розныя віды тэатральнага мастацтва, і спробу ўвесці на крутых сюжэтных паваротах нешта падобнае на тэлевізійную экспрэс-рэкламу, і многае іншае...

Ці прымеце вы правілы гульні?

**Святлана ДАШКЕВІЧ.**

# ЦІ ВІДНО СВЯТЛО Ў КАНЦЫ ТУНЕЛЯ?

(Пачатак на стар. 5).

дукта гэтай восенню склала ўжо 45 працэнтаў, хоць год назад гэты паказчык не перавышаў 30 працэнтаў. Што за дзіва — у Польшчы 97 працэнтаў магазінаў і звыш 80 працэнтаў таваразвароту прыпадае на індывідуальных уласнікаў.

**Г. Л.** — Польшча не Беларусь. Яна не была ў такой ступені інтэгрыравана ў савецкую эканоміку. І развал СССР на ёй таксама гэткім чынам не адбіўся. І галоўнае, мы пакуль што можам толькі марыць аб такой высокай удзельнай вазе прыватнага сектара ў эканоміцы. Мы свой заняпад яшчэ доўга пераадолець не зможам. Паглядзіце, што робіцца. За 9 месяцаў гэтага года нацыянальны даход рэспублікі знізіўся на 15 працэнтаў, што наймацнейшым чынам ускладніла наша фінансавае становішча, абмежавала магчымасці інвестыцый, выкананне сацыянальных праграм. Падзенне вытворчасці ў прамысловым сектары склала 14 працэнтаў, у аграрным — 17. Нават старшыня Саўміна рэспублікі В. Кебіч, які вельмі даражыць дружбай з Расіяй, у сваёй інфармацыі сесіі Вярхоўнага Савета, а інфармацыя гэтая, заўважу, мяне ў многім не задаволіла, прызнаў, што заняпад эканомікі — вынік рэакцыі не на ўнутраныя, а на знешнія фактары.

Яшчэ б! Зламаўшы ўсе структуры, якія забяспечвалі міжрэспубліканскія сувязі, айцы-заснавальнікі Садружнасці нічога ўзамен не вынайшлі.

**М. З.** — Але ж амаль на кожнай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў прымаюцца нейкія пастановы, накіраваныя на ўмацаванне такіх сувязяў. Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч кожны раз, адказваючы журналістам, як прайшла сустрэча, бадзёра адказвае: «Хораша пасядзелі!».

**Г. Л.** — Хораша то хораша, але на грані спынення вытворчасці апынуліся буйнейшыя прадпрыемствы рэспублікі. Не хапае сыравіны, камплектуючых вузлоў, дэталяў. Ды нават школьнік, мабыць, ведае, што той жа Мінскі трактарны завод звязаны з сотнямі прадпрыемстваў-пастаўшчыкоў, раскіданых па ўсіх рэспубліках былога СССР.

Выйсце адно — трэба неадкладна стварыць нейкі наднацыянальны орган у СНД, які б каардынаваў сувязі былых саюзных рэспублік. Інакш нам капцы. З крызісу мы не толькі не выбярэмся, а, наадварот, ён будзе ўсё больш абвастрацца. Можна сабе ўявіць, чым пагражае спыненне толькі аднаго буйнога завода. Гэта тысячы рабочых, якія раптам страцілі працу і апынуліся на вуліцы, у шмат разоў павялічыўшы сацыяльную напружанасць, якой і так хапае.

**М. З.** — Вы, Генадзь Міхайлавіч, намалявалі вельмі змрочную карціну...

**Г. Л.** — Рэальную...

**М. З.** — Я хачу вярнуцца да вашых слоў аб стварэнні ў СНД нейкай наднацыянальнай структуры, якая б каардынавала эканоміку краін, што ўваходзяць у Садружнасць. Але ці не будзе гэта ўспрынята імі як замах на іх суверэнітэт? Невыпадкова ж Украіна рукамі і нагамі адпіхваецца ад так званага плана Назарбаева, які прадугледжвае стварэнне ў СНД нейкага каардынуючага органа. Паглядзіце, як паводзіць сябе тыя ж рэваншысцкія сілы ў Расіі. На ўстаноўчым з'ездзе нядаўна створанага фронту нацыянальнага выратавання вуснамі аднаго з яго лідэраў Лысенкі было сказана, што фронт не прызнае ніякага суверэнітэту Украіны і Беларусі і з іх кіраўнікамі трэба гаварыць на мове не міжнароднага, а крымінальнага права. Не больш, не менш.

**Г. Л.** — Вы бераце крайнія выпадкі. Што больш важна — суверэнітэт ці паўнакроўнае, заможнае жыццё народа?

**М. З.** — Хіба адно аднаму замінае?

**Г. Л.** — Абсалютнага суверэнітэту не існуе. Ва ўсякім разе ў цывілізаваным свеце. Поўны суверэнітэт — гэта аўтаркія, самаізаляцыя ад усяго свету. Іспанія суверэнная краіна? Вядома, скажаце, суверэнная. Але пры ўсёй сваёй дэклараванай суверэннасці яна ўступае ў Еўрапейскую эканамічную супольнасць, якая дыктуе ёй пэўныя эканамічныя ўмовы — устанаўлівае квоты на экспарт віна, садавіны, іншай прадукцыі, як устанаўлівае квоты на экспарт жывёлагадоўчай прадукцыі для тых жа членаў ЕЭС — Галандыі ці Бельгіі. Трэба шукаць баланс паміж захаваннем суверэнітэту і забеспячэннем жыццёвых інтарэсаў сваіх грамадзян. Нашы ж некаторыя нацыянальныя дзеячы лічаць, што галоўная ўмова суверэнітэту — мець сваю атрыбутыку: сцяг, герб, гімн і да т. п.

**М. З.** — Яшчэ ж культура, мова, нацыянальная свядомасць...

**Г. Л.** — Але ж без дабрабыту народа дзяржаўны суверэнітэт губляе сваю прывабнасць.

**М. З.** — Я не прымаю формулы: будзе хлеб будзе і песня. Калі яе трымацца, можна здзічэць. Але мы, Генадзь Міхайлавіч, неяк неўпрыкмет адхінуліся ад нашай тэмы. Зараз ідзе сесія Вярхоўнага Савета рэспублікі, на якую вынесены і шэраг пытанняў, якія тычацца нашых эканамічных праблем. Сярод іх — закон аб зямельнай рэформе, які сёння хвалюе тысячы людзей.

**Г. Л.** — Лібералізацыя цэн паставіла на калені самыя жыццёва-важныя галіны народнай гаспадаркі і ў першую чаргу аграрны сектар. Ён з'яўляецца своеасаблівым кантрагентам прамысловасці, пастаўляючы яму сыравіну і набываючы ад яго тэхніку. У рэспубліцы зараз налічваецца 2,5 тысячы калгасаў і саўгасаў і 2 тысячы фермераў, якім супрацьстаяць магутныя прамысловыя манапалісты, без прадукцыі якіх сельскай гаспадарцы не абысціся. І вось пры такім раскладзе адпушчаны цэны. Пры гэтым спачатку яны былі адпушчаны ў прамысловасці, г. зн. *яна магла ўстанаўліваць свой кошт* выпрацоўваемай прадукцыі, што і робіць, часта беручы лічбы са столі. Вядома, на сваю карысць. У 1990 годзе збожжаўборачны камбайн каштаваў 40 тысяч, зараз — паўтара мільёна. У сто разоў узрос кошт цэменту, цэглы, іншых будаўнічых матэрыялаў. Нядаўна я даведаўся пра такі факт. *За адзін год цана* калені́чатага вала — важнай дэталі рухавіка — узрасла ў 179 разоў. Выпускае яго Волжскі завод у Расіі, дарэчы, адзіны ва ўсім СНД. З усіх манапалістаў манапаліст!

Можна сабе ўявіць, якім безабаронным адчувае сябе ў гэтых умовах селянін.

**М. З.** — У глыбокім заняпадзе сельскай гаспадаркі вінаваты, відаць, не толькі прамысловыя манапалісты. Зжыла сябе калгасна-саўгасная сістэма, якая дзесяцігоддзямі знішчала сялянскі клас, тармазіла развіццё вытворчых сіл у вёсцы. Яна мае пільную патрэбу ў карэнных пераўтварэннях, у прыватнасці, ва ўвядзенні прыватнай уласнасці на зямлю.

**Г. Л.** — Асабіста я не з'яўляюся прыхільнікам неадкладнага ўвядзення прыватнай уласнасці на зямлю. Ва ўсякім разе, спяшацца з гэтым не трэба. Справа гэтая тонкая, тут шмат нюансаў. У чые рукі трапіць зямля, калі яна стане прадметам куплі-продажу? У рукі сумленнага працаўніка, ці лайдака, які праз год-два ператворыць свае гектары ў пустэчу? Невыпадкова, у заходніх краінах, тых жа ЗША. абы-каму зямлю не прададуць, чалавек, які наладзіўся стаць землеўладальнікам, праходзіць сістэму тэстаў, каб улады былі ўпэўнены, што зямля трапіла ў надзейныя рукі.

**М. З.** — Цікава, чаму так нельга зрабіць у нас?

**Г. Л.** — У нас больш, чым там, прадажных чыноўнікаў, больш хабарнікаў. За хабар дадуць дазвол на куплю зямлі любому прайдзісвету. Далей. Хто будзе займацца продажам зямлі?

**М. З.** — Зямельныя банкі.

**Г. Л.** — А яны ёсць? Іх трэба яшчэ ствараць, а гэта вельмі няпростая справа. Ці не атрымаецца, што зямля пойдзе з аўкцыёнаў і стане набыткам людзей з тоўстымі кішэнямі. Што, зноў культываваць гаспадара, які будзе эксплуатаваць наёмных рабочых-парабкаў?

**М. З.** — Ну, цяжка сабе ўявіць большага эксплуатататара, чым калгас-саўгас, дзе людзі дзесяцігоддзямі працавалі за нішто, дзе не тое што старшыня ці дырэктар — любы брыгадзір мог здзекавацца з селяніна, як хацеў. Вось гэта і было сапраўднае прыгоннае права.

І, разам з тым, я не бачу нічога благога ў тым, што гаспадар-фермер ў гарачы час возьме па кантракце на падмогу некалькі рабочых. У тых жа ЗША ніжэйшая мяжа аплаты сельскагаспадарчага рабочага фіксіравана законам. Так што ніякай эксплуатацыі тут няма.

**Г. Л.** — Сабекошт прадукцыі ў фермерскай гаспадарцы будзе вельмі высокі — трэба неяк апраўдаць выдаткі на куплю зямлі, тэхнікі, якая каштуе страшэнна дорага. Ці не прывядзе ўсё гэта да яшчэ большага ўздаражання прадуктаў харчавання?

**М. З.** — Не думаю, што так здарыцца. У прыватніка кожная дошчачка будзе на месцы, ён убярэ ўсё да каліва, спаць не будзе, а не дапусціць, каб нешта пайшло ў глум. Вам лепш, чым мне, вядома, што кожны год наша сацыялістычная сельская гаспадарка з-за недагляду, безгаспадарчасці губляе 30—40 працэнтаў вырашчанай прадукцыі.

**Г. Л.** — Справа ў тым, што нашы калгасы ніколі не былі калгасамі ў сапраўдным значэнні гэтага слова. Імі жорстка кіравала дзяржава. Але ж можна калектыўна гаспадарыць на зямлі і па-іншаму. Сельскагаспадарчая кааперацыя, напрыклад, шырока распаўсюджана ў многіх заходніх краінах. У час турыстычнай паездкі ў Іспанію мы наведалі адзін з сельскагаспадарчых кааператываў. Аб'ядноўваў ён 50 фермераў, якія спецыялізаваліся на вырошчванні рысу. На паях яны пабудавалі заводзік па ачыстцы і сартыроўцы рысу, а адыходы прыстасавалі для вырошчвання ракаў, якіх экспартуюць у многія еўрапейскія краіны.

**М. З.** — Але ж кожны з тых 50 фермераў меў зямлю ў прыватным карыстанні?

**Г. Л.** — Я за шматукладнае гаспадаранне на зямлі. За ўсе яго формы. Хай яны спаборнічаюць паміж сабой, хай перамагае дужэйшы.

**М. З.** — Пакуль што ў нас дужэйшы той, хто мае дзяржаўную падтрымку. У нашай рэспубліцы ёю ў поўнай меры карыстаюцца толькі калгасы і саўгасы. Мяркуючы па настроі большасці народных дэпутатаў у Вярхоўным Савеце, такое становішча захаваецца.

Я б хацеў, Генадзь Міхайлавіч, у нашай гутарцы закрануць яшчэ вось якое пытанне. Не помню ўжо, у якім выданні, здаецца, у «АіФе» было змешчана сацыялагічнае даследаванне, праведзенае ў прыбалтыйскіх рэспубліках, на Беларусі і Украіне на прадмет вывучэння адносін насельніцтва гэтых краін да пераходу эканомікі на рыначныя рэйкі. Мяне асабіста ўразіла, што колькасць галасоў, аддадзеных на карысць новых эканамічных адносін, самая меншая, прычым, удвая, утрая, была на Беларусі. Патрабуюць, відаць, спецыяльнага вывучэння прычыны такога кансерватыўнага мыслення, «саўковага» менталітэту, але факт застаецца фактам, і яго, на маю думку, нельга не ўлічваць эканамічнай навуцы. У рэшце рэшт, гісторыю робяць людзі.

**Г. Л.** — Вы маеце рацыю. Сапраўды, такая дысцыпліна, як эканамічная псіхалогія, у нас дагэтуль не развівалася. Мы, вучоныя-эканамісты, разглядалі чалавека, як эканамічны рэсурс і не болей гэтага. Гэта яскрава праявілася ў справах, звязаных з ліквідацыяй чарнобыльскай трагедыі, калі, падлічыўшы прыблізныя страты і выдаткаваўшы пэўныя рэсурсы на будаўніцтва «чыстых» пасёлкаў для адсяленцаў з забруджанай зоны, мы не ўлічылі, што можа адчуваць чалавек, якога адрываюць ад звыклага яму асяроддзя — сваёй хаты, суседзяў, нарэшце родных магіл. І невыпадкова сотні перасяленцаў не прыжыліся на новых месцах і вярнуліся, як кажуць, на родныя папялішчы ў зону.

**М. З.** — Вельмі жывучы ў нас сацыяльна-псіхалагічны стэрэатып, уласцівы, думаю, не нацыянальнай, а таталітарнай свядомасці, выхаванай у роўнасці-беднасці. Вось чаму так варожа і раўніва многімі зараз успрымаецца сама думка аб тым, што ў рынчачнай эканамічнай супольнасці могуць з'явіцца багатыя людзі. Хоць сусветная практыка сведчыць — чым больш у краіне багатых людзей, тым менш бедных.

**Г. Л.** — Каб вы ведалі, дыферэнцыяцыя ў даходах насельніцтва была ў былым Савецкім Саюзе большай, чым у якой капіталістычнай краіне. Цэлы наменклатурны клас, асабліва яго верхні пласт, жыў нібы пры камунізме, ва ўсякім разе, як мы яго ўяўлялі ў сваіх марах. Ну, а так, як жыла крамлёўская вярхушка і яе бліжэйшае акружэнне, думаю, не жылі ніякія прэзідэнты і мільянеры. І калі апошнія не хаваюць сваіх прыбыткаў, сваіх яхтаў і палацаў, дык нашыя партыйныя нуворышы трымалі сваё жыццё ў глыбокай тайне ад народа, крывадушна заклікаючы яго да класавай салідарнасці і сацыяльнай роўнасці.

Самае сумнае, самае агіднае, што з адыходам у нябыт камуністычнай улады амаль усё гэта захавалася, а ў некаторых праявах нават абвастрылася. Як і трэба было чакаць, не разгубіліся былыя партыйна-дзяржаўныя функцыянеры, якія хоць фармальна і страцілі ўладу, але, выкарыстоўваючы старыя сувязі, нестабільную абстаноўку ў грамадстве, пачалі хуценька ўступаць у камерцыйныя структуры. Я толькі дзіву даваўся, пачуўшы нядаўна аб тым, што былы першы сакратар Мінскага гаркома КПБ Місуна, стаўшы на чале нейкага камерцыйнага ўтварэння, зарабляе мільёны рублёў. Не спяць у шапку і наваяўленыя «дэмакраты», якія, дарваўшыся да ўлады, грабуць пад сябе, хто як можа. І гэта ў той час, калі на «загніваючым» Захадзе, з яго «законамі джунгляў» кожны крок дзяржаўных дзеячаў знаходзіцца пад пільным кантролем грамадскасці. Варта было кіраўніку апарату Белага дома ў Вашынгтоне Сунуну выкарыстаць урадавы самалёт для прыватных мэт, як ён адразу пазбавіўся свайго вельмі ўплывовага паста. Маргарэт Тэтчар мушана была даваць тлумачэнні ў парламенце наконт сваёй дачкі, якая, насуперак сцвярджэнням прэсы, ляцела з ёй на ўрадавым самалёце, папярэдне купіўшы на яго білет (дзеля эканоміі дзяржаўных сродкаў, на ўрадавыя самалёты ў Англіі нават у час афіцыйных візітаў частка білетаў прадаецца радавым грамадзянам).

**М. З.** — Вы закранулі тэму замежжа. Сакраментальная фраза Астапа Бэндара «Заграница нам поможет» апошнім часам на старонках нашай прэсы набыла новае гучанне. Хто ўкладвае ў яе, як і герой неўміручых раманаў, іранічны змест, а хто вымаўляе з надзеяй. А вы, Генадзь Міхайлавіч, як ставіцеся да дапамогі замежных краін?

**Г. Л.** — Мы павінны дзякаваць ім за гуманітарную дапамогу, што тычыць астатняга... Я ж не магу не бачыць, што, карыстаючыся надзвычай высокім курсам долара ў адносінах да рубля, заходнія бізнесмены, наязджаючы ў рэспубліку, скупляюць у нас усё да дзіцячых калясак уключна.

**М. З.** — Нешта я не сустракаў у нашых магазінах немцаў з англічанамі. На Камароўскім рынку іх таксама не відно. Там, праўда, шмат іншаземцаў, калі лічыць іншаземцамі жыхароў рэспублік былога СССР. Ну, а ўступленне ў Міжнародны валютны фонд, Сусветны банк — у гэтым мы зацікаўлены?

**Г. Л.** — Разумееце, Міхась Майсеевіч, свет рыначных адносін вельмі жорсткі свет. Вы паглядзіце, якую эканамічную вайну вядуць ЗША з Японіяй, ЗША з Еўрапейскай эканамічнай супольнасцю. Я гатовы дапусціць, што Захад хацеў бы бачыць на месцы былога Савецкага Саюза міралюбныя дзяржавы, не пагражаючыя свету атамнай зброяй. Але толькі не сур'ёзных канкурэнтаў на эканамічнай ніве. Я ўпэўнены, што Расія, калі ёй удасца ўзброіцца передавой тэхналогіяй, пры сваіх багацейшых сыравінных рэсурсах, таннай рабочай сіле ў канкурэнтнай барацьбе пераможа Захад і гэта там разумеюць.

Або вось такі характэрны прыклад. Неяк мне давялося гутарыць з прадстаўнікамі дзелавых колаў адной замежнай дзяржавы. Прапаноўвалі мы заходнім бізнесменам выкарыстаць нашу досыць адладжаную жывёлагадоўчую вытворчасць — нам яны прадаюць збожжа, камбікармы, мы ім — таннае мяса. Таксама адмовіліся: маўляў, у іх квоты на вытворчасць мяса, і яны мушаны стрымліваць у гэтай справе нават сваіх фермераў.

Так што спадзявацца нам трэба перш за ўсё на саміх сябе. Галоўнае цяпер авалодаць сітуацыяй, узяць пад кантроль няпростыя эканамічныя працэсы, знайсці аптымальныя рашэнні. Толькі тады, упэўнены, мы ўбачым у канцы доўгага і звілістага тунеля, па якім рухаемся амаль усляпую, доўгачаканае святло.

**М. З.** — Дзякуй, Генадзь Міхайлавіч, за гутарку.

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Алесь ДАВЫДАЎ**

Да сваіх твораў, дасланых у рэдакцыю, настаўнік Алесь Давыдаў зрабіў такую прыпіску: «Шаноўны «ЛіМ». Цяжкавата нам, маладзейшым па літаратурным узросце, друкавацца на тваіх старонках. Тым не менш, намерыўся даслаць маленькую нізачку вершаў. Я іх вызначаю як — **прыказы**. На маю сціплую думку, гэта нешта паміж вершам у прозе, версэтам, вершаказам разанаўскім і казанню ці прытчай. Бачу і адчуваю, што яны надпадаюць пад дух многіх лімаўскіх публікацый настолькі, што аж шчыміць сэрца. Таму дасылаю іх—з просьбаю і надзеяю надрукаваць».

# Таямнічая госця

Штоночы прыходзіць да нас у хату
сівая бабуля з кійком ды ў лахманах жабрацкіх,
сядае, крэкчучы, на лаўку ля печы
І пачынае ўшчуваць нас, блазнюкоў.
А-вох! Забыліся на маці сваю родную!
А-ёй! Прадалі яе сыночкі-здраднічкі!
А-вой! Выракліся душы няўцешнай!..
Сцішымся ў запечку, як мышы—
шушукаюць нам у вушах ушчуванні бабчыны.
Прытулімся да комінка—
гудзе ў ім праклён жахлівы нашчадкам нашым.
Так і заснём у цішэчы вусцішнай.
А наранак падхопімся—прастыў і след
начной таямнічай госці, а з намі нейкае дзіва чыніцца:
паяснелі раптам галовы нашыя,
пільнейшымі сталі вочы нашыя,
вастрэй чуюць нашыя вушы,
І ўжо прагнуць ушчуванняў бабульчыных
пасвятлелыя нашыя душы.

# Правадыр

Ён вядзе нас, згалелых і знясіленых, немаведама куды.
Аслеплыя ад гора, уцвеленыя надзеяй,
мы верым нашаму нястомнаму правадыру
І ўпарта мераем яго след.
Мы зацята змагаемся з варожымі войскамі,
што стаяць на нашым шляху,
І бязлітасна нішчаць яны нас, але дзіўна:
чамусьці не паміраем мы,
не баляць нам і не крывяняць нашыя раны...
І толькі на краю бездані скажа нам правадыр,
што ўжо век, як усе мы памерлі, што мы—
адно неўмiручыя прывіды сваіх жыццяў.
І прызнаецца ён,
што гэта нашай крывёю дасюль жывіліся яго жылы.
Станем раптам відушчымі —
І кінемся забіваць свой цень.

# Наша вартасць

Калісьці мы ўсведамлялі сваю вартасць
ды пільна яе вартавалі.
Але выпладніліся сярод нас нявартыя,
якія скралі ды прадалі гвалтням нашую вартасць,
І тыя зрабілі яе ўжо сваёй вартасцю,
надаўшы нам, ашуканым ды прыніжаным, іншую,
нічога няварттую вартасць.
І мы палічылі нявартым
выкрыць ды вырачыся сваіх вырадкаў;
спакваля звыкліся і пачалі патураць
сваёй новай наравістай вартасці.
Дасюль мы, абыякаватварыя,
у ёй, нібы ракі ў катле, варымся,
ды ўсё болей пачварымся.
А самі ў сябе пытаемся:
Навошта так папускаемся!..
Дачакаемся, што навек парукаюцца
нашая бястварасць з бязвартасцю.

# Мы

Нам, нікчэмнікам, почасту трызніцца,
што мы вышэйшыя за ўсё...
але нябёсы вышэй за нас.
Мы ўзнімаемся, дужэйшыя за ўсіх, калі заманецца,
І лунаем па-над зямлёю, што ўзрадзіла нас,
ды толькі ніяк не можам вымкнуцца
з-пад яе ўладарнага купала, які здаецца
вышэйшым і дужэйшым за самога сябе.
Мы пагарджаем зялёнымі плямкамі пушчаў,
бо яны здольныя адлучыцца ад зямлі, падобна нам,
адно шэптам сваіх шатаў;
мы смяемся з сукветных лугоў —
яны смецце пад нашымі нагамі;
мы грэбуем блакітнымі рэкамі і багністымі балотамі—
яны наогул утапіліся ў брудзе сваёй бездані;
мы ганьбім гаючую глебу, штодня паскудзячы яе,
бо яна незварушная і на нас не раз'юшыцца.
Але што гэта!!.
Нам не стае прасторы і часу, і мы падаем,
мінаючы ўсё, паўзем пачварнымі чарвякамі
ў матчына чэрава—і зноў робімся нікчэмным нічым.
Аднойчы нейкі дзівак вымавіўся:
я не варты свайго нараджэння...—
І яму растуліліся нябёсы.
Бачылі яго потым між зораў.

# Ператварэнні

З'яўляюся на Свет ужо ў каторы раз.
Упершыню вывеўся кволай бяскрыўднай істотаю,
а сканаў жахлівым драпежнікам;
Тады выпладніўся чалавекам—
ды скалеў наогул невядомай дасюль пачварынай...
Цяпер вярнуўся нябачным Нікім;
цешуся хліпкаю мараю—
не наявіцца ў далёкай прышласці
зноў чыёйсьці ахвяраю.

Капыльскі раён,
в. Жыліхава.

**Павел ДУБАШЫНСКІ**

# АБРАЗКІ

## Палялейкі

Там, дзе дрыготкай павуцінкай праплывае рака Дзісна, якую людзі ласкава называюць Дзісёнка, на паўночным захадзе Беларусі, мая радзіма: мой першы крык, мой першы крок і першае здзіўленне. Тая цудоўная пара чалавека, калі ёсць толькі светлае сёння, радаснае заўтра і ніколі якога б там ні было ўчора — пара дзяцінства. Калі ёсць толькі мара і няма ўспамінаў.

Да гэтага часу стаіць на тым баку рэчкі, убярогшыся ад войнаў, вёска Палялейкі. Напэўна, з таго часу, як я заўважыў у люстэрку свае абгарэлыя на сонцы валасы, яна абуджала ўва мне розныя цікавыя ўяўленні, наводзіла на неверагодныя здагадкі, лашчыла душу, будзіла фантазію, прымушала засяродзіцца, а найбольш выклікала цікавасць да нязведанага, нябачанага, схаванага, нечага таямнічага, але абавязкова светлага і радаснага. Справа ў тым, што «за ёй узыходзіла сонца», і калі ў гэты час даводзілася глядзець на Палялейкі, я нічога незвычайнага не заўважыў, толькі як выразаныя з кардону абрысы дрэў. А вось калі сонца заходзіла, яно выразна высвятляла, вымалёўвала луг, вёску і ўсё зарэчнае наваколле. У ціхі вечаровы час, калі ў засені хаты, седзячы на прызбе, грэў парэпанымі пяткамі халадзеючы пясок, я часта глядзеў на тую таямнічую і пакуль далёкую вёску, хаця яна была ўсяго за трыста метраў ад нашай хаты, але яе аддзяляла, а значыць і аддаляла Дзісёнка. А я пакуль што мог праплыць адлегласць даўжынёю з аглоблю. Я радасна пераканаўся ў гэтым, калі бацька замачваў у рэчцы рассохлыя, старыя калёсы. Палялейкі здаваліся мне нейкай другой краінай, дзе жылі нейкія другія, прыгожыя людзі сярод гэтых пазалочаных сонцам ліп і дубоў, сярод тапаляў, прысадзістых яблынь і стромкіх ігруш. Хаты, хлявы, лазні здаваліся святлейшымі і большымі, чым у нашай вёсцы. Там, напэўна, быў парадак у гаспадарках і лад у сем'ях і нават праца была там лягчэйшая, чым у маіх бацькоў і суседзяў. Адтуль заўсёды веяла спакоем, упэўненасцю, нетаропкай руплівасцю. Мычанне кароў, бляянне авечак і нават брэх сабак, здавалася, быў ласкавейшы, чым у нас. А галоўнае — людзі. Я ўглядаўся ў мужчын, і яны, асветленыя вечаровым сонцам, здаваліся веліканамі, калі махалі косамі на прырэчным лужку, а за імі матляліся яшчэ больш даўжэзныя цені. І прозвішчы ў іх былі незвычайныя: Гардзяі, Лешкі, Лялекі...

Асабліва ўражвалі Палялейкі, калі чырвоным кошыкам падымаўся месяц і паказваў сваю пачварную ўхмылку, скрыўленую вечаровымі аблокамі. Аздобленыя яго святлом, сілуэты дрэў набывалі формы дзіўных касцёлаў і цэркваў, нябачаных, небывалых гмахаў...

Прайшлі гады. Воляй лёсу толькі нядаўна мне давялося праязджаць праз Палялейкі. Я, уражаны, моўчкі глядзеў на звычайныя хлявы і хаты, на тыя ж, толькі пастарэўшыя дрэвы, на звычайныя лазні і студні, на руплівасць сваіх землякоў. І стараўся хутчэй мінуць вёску, праскочыць нядаўна пабудаваны мост, вярнуцца на свой бераг і, дачакаўшыся надвячорка, калі сонца сваімі апошнімі промнямі пачне лашчыць зарэчча, сесці на прызбу старэнькай бацькоўскай хаты і зноў убачыць мае дзіцячыя Палялейкі, упэўніцца ў праўдзівым існаванні прыгожай мары.

Соладка ёкне пад лыжачкай і выразна і шчымліва ўсплывуць у памяці мясціны, пра якія лепей не скажам, як — родны кут...

## Сонца «на качаргу»

Здавён жыве ў маім родным краі выраз «сонца на качаргу». Напрыклад, якая-небудзь бабуля кажа: «Сонца было яшчэ на качаргу, а я ўжо прытупала з кірмашу»; або: «Ужо сонца было на качаргу, а я толькі выбралася да ўнукаў»; ці: «Сонца ж на качаргу, трэба рупіцца...»

Дык якая ж гэта пара дня? На якой адлегласці сонца знаходзіцца ад зямлі ў вечаровы час, калі людзі пра яго, іншы раз з трывогай, іншы раз з жартам, а часцей за ўсё з заклапочанасцю і павагай гавораць «сонца на качаргу»? Чамусьці выраз гэты часцей за ўсё пачуеш у пачатку восені. І гэта, пэўна, таму, што хочацца людзям прытрымаць адыход лета, як гаспадыні хочацца прытрымаць захад сонца, бо яшчэ столькі спраў-клопатаў дзённых не дароблена пры ім. А, магчыма, гэта само сонца надвячоркам затрымліваецца на імгненне, каб агледзіць, ацаніць, аддзячыць селяніну за працу, зробленую пры яго святле.

Гэта тая пара дня, калі гучала песня жней — раёк. У ціхі, стомлены дзень ён здалёк зазвоньваў адным голасам, пасля яго падхоплівалі іншыя, і ён ляцеў, каціўся па наваколлі.

У ім — і ўдзячнасць дню, удзячнасць хлебнаму полю, працавітым рукам, і сум далёкай, адышоўшай у небыццё цяжкай жаночай долі.

Гэта тая пара, калі дарожка ад вечаровага сонца бяжыць па нацягнутых на ржышчы павуцінках, паказваючы жнеям шлях дадому.

Гэта спакойны, няспешны час, калі ратай адчэпіць ворчык ад плуга, апошні раз акіне вокам узаранае поле, па-гаспадарску прыкіне: «Папрацаваў няблага», а конь, яго асноўны памочнік, паслухмяны і стараннны, апусціць сваю цяжкую галаву, з прыхрапам уздыхне і таксама падумае аб тым жа. Гэта тая пара дня, калі бацяны, пары тры-чатыры, набіраючы вышыню, павольна кружаць у небе, аглядаючы перад выраем роднае наваколле, прыкмячаючы арыенціры, па якіх яны вернуцца вясной у дарагія мясціны.

У гэты час неяк гучней рыпяць жураўлі калодзежаў. У гэты час гаспадыні мыюць даёнкі, і аб іх ногі ласкава труцца ў чаканні цёплага сырадою каты, а на выгане ўжо падаюць галасы «букеткі» і «красулі». У гэты час куры збіраюцца бліжэй да курасадняў. Толькі што вытапленая лазня пахне бярозавым венікам, чакае гаспадара і яго суседа.

А больш позняй восенню ў гэты вечаровы час асабліва выразна бачны апошні жураўліны клін, які пры цёплым яшчэ сонечным святле рассоўвае, расчышчае запыленае за лета неба, каб неўзабаве пасыпаліся на зямлю першыя сняжынкі.

А, магчыма, усё прасцей. Мо проста гэта тая пара надвячорка, калі гаспадыні хочацца падперці сонца качаргой, каб прытрымаць яго хоць на хвілінку, бо яшчэ не зроблена столькі дзённых спраў!

Ці МОЖНА было б уявіць сабе, што праз некалькі соцень гадоў пра наш час пісалі б прыблізна так: «У першай палавіне XX ст. разгарэлася сусветная вайна, якая, па адных звестках, працягвалася з 1914 па 1918 (або па 1920) год, а па іншых — з 1939 па 1945. Ваявалі Францыя, Англія, Расія, ЗША супраць Германіі і яе саюзнікаў...»

Такое не ўкладваецца ў галаве, каб гісторыкі маглі згубіць цэлую вялікую вайну. А між тым нешта падобнае здарылася пры апісанні гістарычных падзей пачатку XIV ст.

Калі мне ў рукі трапіў упершыню «Летапіс Самавідца» пра войны пад кіраўніцтвам Багдана Хмяльніцкага, то я спаткнуўся аб першую фразу: «Когда после самодержавия великого князя Владимира и междуусобного сынов его убийства, также после великого разорения, Батыем нанесенного, нескоро Гедым, великий князь литовский, пришедши на Киев, побил над рекой Ирпенем князей руских и прилучил к своей земле княжение Киевское, постановивши в нем наместника Миндона князя Олшанского, то с тех пор Литва обладала Киевом...»

У сярэдзіне XVII ст. так бачылі гісторыю трохсотгадовай даўнасці. Тут у адну фразу ўціснулася ўся гісторыя Кіеўскай Русі. Але нечаканай і нейкай дзіўнай аказалася тая гісторыя: пра князя Уладзіміра мы чыталі, пра Батыя ведалі таксама, а вось пра бітву на Ірпені я не меў ніякага ўяўлення. І пачаў шукаць у нашых энцыклапедыях, гістарычных дапаможніках, пытаўся ў спецыялістаў. Але дарэмна. Нічога не знайшоў.

Памог мне выпадак. Натрапіўшы на даклад Восіпа Бадзянскага «Пра мае пошукі ў Познанскай публічнай бібліятэцы», прачытаны ў лістападзе 1842 г. у Таварыстве гісторыі і старажытнасцей расійскіх пры Маскоўскім універсітэце і апублікаваны ў 1846 г., я знайшоў там даволі доўгую вытрымку з «Летапісу Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага» (вядомага сёння пад назвай «Летапіс Рачынскага») з апісаннем той бітвы на Ірпені, у час якой Гедымін разграміў аб'яднаныя сілы рускіх князёў, пасля месячнай аблогі ўзяў Кіеў, падпарадкаваў сабе вялікія абшары Кіеўскай Русі, якая спыніла сваё існаванне як самастойная дзяржава. Як сказана ў іншым летапісе — у «Хроніцы літоўскай і жамойцкай» — вялікі князь Гедымін «адной перамогай манархію Кіеўскую, Валынскія і Северскія княствы аж да Пуціўля за Кіевам на 50 міль і далей апанаваў і да Літоўскай дзяржавы далучыў...»

Я неяк спадзяваўся, што пра паходы Гедыміна знайду звесткі ў кнігах Міколы Ермаловіча. Не, не знайшоў. З'явіўся нарыс «Забытая слава. Кароткі агляд ваеннай гісторыі Беларусі», створаны магутным калектывам аўтараў. Адтуль я даведаўся толькі адно: «Пры князі Гедыміне да княства далучылася большая частка этнічна беларускай тэрыторыі. Аб'яднанне адбывалася на аснове ўзаемадамоўленасці, якая гарантавала захаванне асаблівасцей мясцовага самакіравання і сацыяльнага жыцця».

Не так даўно ў «Народнай газеце» друкаваўся нарыс С. Цярохіна «Славутыя адвагай на вайне» — нешта накшталт пашыранага варыянта «Забытай славы». Але там імя Гедыміна згадвалася зусім выпадкова.

Памяць пра бітву на Ірпені згубілася недзе ў XX ст. Але сёння настала пара паглядзець, што пра яе паведамляюць нашы летапісы. А паколькі ёй папярэднічала вялікая вайна з крыжакамі, то і пра яе варта прачытаць апісанне нашых далёкіх продкаў.

Звернемся да падзей, якія ў «Хроніцы літоўскай і жамойцкай» датуюцца 1321 і 1322 гадамі (у «Летапісе Рачынскага» і ў «Хроніцы Быхаўца» даты не называюцца).

Пра вайну з крыжакамі сцісла апавядаецца ў «Летапісе Рачынскага». У тагачасных хроніках назоўнікі «русь», «літва», «жамойць» ужываюцца з дзеясловамі множнага ліку: «ваявалі», «крычалі», «беглі»... Мы ў сваім перакладзе пакінем летапісную форму гэтых назоўнікаў, але дзеясловы дапасуем да іх у адзіночным ліку: «русь баранілася» і г. д.

Вось як апавядае пра тыя падзеі «Летапіс Вялікага Княства Літоўскага і Жамойцкага»: «Застаўся вялікі князь Гедымін пасля смерці бацькі свайго Віценя ў Вялікім Княстве Літоўскім, Рускім і Жамойцкім і сядзеў на бацькоўскім троне ў Кернаве. Не шмат гадоў мог ён панаваць спакойна, бо супраць яго пайшлі немцы, прусы і інфлянты і з вялікім мноствам людзей наступалі на зямлю Жамойцкую, збіраючыся на ёй замацавацца».

Самі крыжакі сваімі бясчынствамі прымусілі Гедыміна дзейнічаць рашуча. «І на другі год,— паведамляецца далей у летапісе,— сабраліся ўсе сілы літоўскія і рускія і пайшлі на немцаў. Немцы,

